

# свабода

www.svaboda.by
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

№63 (290) 19 ліпеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478




# Палігон у агні

*Прырода не даруе за разбураныя мілітарызацыяй гнёзды Палесся*

***На Беларусі шугаюць пажары. Штодзённа ў зводкі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях трапляюць дзесяткі выпадкаў выяўленага адкрытага агню. Гараць балоты, тарфянікі, лясы. На Гомельшчыне на гэтым тыдні ліквідоўвалі пажары на агульнай плошчы 800 гектараў. З Лельчыцкага раёну загараннi перакінуліся ў Столінскі і ахапілі тут больш як 300 гектараў.***


Фота У. Шпалака

Палескі ваенлягас, што згадваецца зараз як зона, моцна пацярпелая ад стыхійных пажараў у Столінскім раёне, – гэта толькі частка былога сакрэтнага палігону. Да 1997 году ён заставаўся ва ўласнасці Расіі, а потым нібыта быў закрыты. Аднак летась ракетчыкі зноў практыкаваліся тут у збіванні паветраных мішэняў. Уваходы ў лес былі ачэпленыя салдацкімі патрулямі, над навакольлем грымелі выбухі.

З 1958 году няма спакою ў найпрыгажэйшых мясцінах Палесся. Пры мілітарызацыі СССР у «халодную вайну» Мерлінскія балоты, якія ніколі не перасыхалі, а таму сваёй статысячагектарнай плошчай рэгулявалі клімат у паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі, аддалі ваеннымі для нарошчвання мускулаў. За лічаныя дні і ночы транспартная калона з 800 аўтамабіляў вывезла разабраныя пабудовы і маёмасць з сямі вёсак і шматлікіх хутароў. Палешукоў раскідалі па ўсім Саюзе. Ваенныя ачысцілі шматлікія лясныя кварталы ў гэтым унікальным прыродным кутку нават ад пнёў і напхалі іх танкамі і самалётамі, аўтамабілямі і бронемашынамі. Былі збудаваныя шматлікія палі баёў для паветранай бамбёжкі. Два-тры разы на тыдзень у небе над былымі мерлінскімі хутарамі з'яўляліся самалёты з артылерыйскай начынкаю і скідалі свой боезапас на наземныя мішэні. За 25 гадоў існавання Варшаўскай дамовы лётчыкі ўсіх ягоных краін-удзельніц так «перааралі» бязмежнае балота і лес у ім, што тут зараз утварыліся пясчаныя дзюны. Абвугленыя і спарахнелыя дрэвы тырчаць над глыбокімі варонкамі ад авіябомбаў, нібыта памінальныя крыжы над выграбенымі з зямлі пахаваннямі. Языку нават выпадковага полымя ёсць чым пажывіцца. А чалавек сюды баіцца сунуцца, бо дзе агонь, там выбухі. Не ўсе бомбы выпатрашылі сваё нутро пры падзенні міма цэлі. У бязводных балотах шмат яшчэ тоіцца пузатых жалезных акулаў...

Як у Казахстане стэпы Байканура, так у Беларусі Мерлінскія балоты пры спробе іх неяк выкарыстоўваць ствараюць непрадказальныя праблемы. У ліпені 2002 году яны зноў гарэлі і, як канстатуюць зводкі з месца, вядзенню больш эфектыўных супрацьпажарных прац перашкаджаюць сухое надвор'е, адсутнасць блізкіх запасаў вады і дрэнныя праезды для тэхнікі.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

---

**ПРАЖЭКТЫ**

## *Лукашэнка хоча аб'яднаць камуністаў*


Фота У. Шпалака

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць «нездаровай» сітуацыю, калі ў краіне існуюць дзве камуністычныя партыі.**

Пра гэта ён заявіў 17 ліпеня на сустрэчы з групай дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія ўваходзяць у Камуністычную партыю Беларусі. Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, Лукашэнка заявіў пра неабходнасць кансалідацыі палітычных сіл у краіне. Абмяркоўвалася, у прыватнасці, пытанне пра магчымае аб'яднанне ўсіх камуністаў вакол КПБ. Нагадаем, у Беларусі афіцыйна зарэгістраваны дзве кампартыі – КПБ, якая падтрымлівае цяперашняе кіраўніцтва дзяржавы, і апазіцыйная Партыя камуністаў Беларуская (ПКБ).

---

**ПРОФБОСЫ**

## Пасябравалі

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Леанід Козік абраны старшынём Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Такім быў вынік пленуму Савета ФПБ, што адбыўся 16 ліпеня. З 256 удзельнікаў пленуму за кандыдатуру Л.Козіка прагаласавалі 238 чалавек, супраць – 10, 8 – устрымаліся. Дагэтуль пленум падтрымаў адстаўку ранейшага старшыні ФПБ Франца Вітко.

---

**ТАЛЕРАНТНАСЦЬ**

## Закон у абарону беларусак

Паводле словаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў Надзеі Цыркун, у хуткім часе ў Беларусі пачне распрацоўвацца праект закону аб прадухіленні гвалту ў сям'і. Паводле словаў намесніка начальніка ўпраўлення сацыяльнай дапамогі і сацыяльнай абароны, начальніка аддзелу сямейнай палітыкі і гендэрных праблем Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі Ірыны Чутковай, большасць з беларускіх жанчын хаця б аднойчы ў жыцці сутыкалася з гвалтам.

---

**КАНТРАКТЫ**

## *Яшчэ адзін беларус у НХЛ*

21-гадовы нападаючы зборнай Беларусі па хакеі Канстанцін Кальцоў падпісаў 3-гадовы кантракт з клубам НХЛ «Пітсбург пінгвінз». Сума кантракту – блізу мільёна даляраў. «Пітсбург» задрафтаваў беларуса ў першым раўндзе яшчэ ў 1999 годзе. Кальцоў вядомы як самы малады хакеіст, які выступаў на чэмпіянаце свету. Яшчэ адзін наш суайчыннік Руслан Салей ужо гуляе ў НХЛ за клуб «Анахайм».

---

## *Прысуд бандзе Ігнатовіча – без зменаў*

**На гэтым тыдні Вярхоўны суд Беларусі разгледзеў касацыйную скаргу сям'і Завадскіх па выраку былым афіцэрам падраздзялення «Алмаз» ці, як іх яшчэ называюць, бандзе Ігнатовіча. Судовыя слуханні па хадайніцтве пракурора праводзіліся ў закрытым рэжыме, а саміх абвінавачаных у суд не прывозілі.**

Нагадаем, што 14 сакавіка Мінскі абласны суд прызнаў спецназаўцаў Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка вінаватымі ў выкраданні аператара *ОРТ* Змітра Завадскага і ў шэрагу іншых цяжкіх злачынстваў. Ігнатовіч і Малік былі асуджаныя да пажыццёвага зняволення. Аднак сваякі журналіста і абарона палічылі, што падзеі са знікненнем Змітра Завадскага не былі расследаваны як належыць, і вырашылі дамагацца перагляду справы.

Але 16 ліпеня старшыня Калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суду Уладзімір Пташнік абвесціў, што рашэнне суду першай інстанцыі пераглядацца не будзе і стары вырак застаецца ў сіле. Адзінае, што цяпер могуць зрабіць родныя Змітра Завадскага, каб аспрэчыць яго, – гэта звярнуцца са скаргай на імя старшыні Вярхоўнага суду.

**Кірэй МАНУЙЛА**

---

## Пад падазрэннем – НКУС

У райцэнтры Жоўква каля Львова знойдзены і эксгумаваны парэштткі больш як 200 чалавек. 70 з іх ідэнтыфікуюцца як дзеці. Пра гэта паведаміў старшыня праўлення львоўскага таварыства «Мемарыял» Яўген Грыneў.

Чалавечыя косці былі выпадкова знойдзены рабочымі пры рамонтных працах у манастыры. Парэшткі ляжалі складзеныя ў тры ярусы пад тоўстай цэментавай падлогай некалькіх келляў.

Некаторыя з забітых дзяцей былі яшчэ немаўлятамі, якім не споўнілася і году, астатнім можна даць ад 4 да 14 гадоў. На 11 чарапах відаць кулявыя адтуліны ад малакаліберной вінтоўкі, якая была масава ўзята на ўзбраенне пасля вайны. Я.Грынеў паведаміў, што папярэднія вынікі працаў у базыльянскім манастыры сведчаць пра тое, што гэтае пахаванне можа датавацца перыядам пасля Другой сусветнай вайны. На гэта паказваюць рэчы, знойдзеныя пры раскопках. У прыватнасці, на месцы раскопак знойдзена фатаграфія мітынгу, на якой выразна чытаецца прозвішча аднаго з чальцоў ЦК кампартыі Украіны Шверніка, абранага на гэтую пасаду пасля вайны.

Такога кшталту акцыі адносіліся ў НКВД да так званай аператыўнай дзейнасці, а адпаведныя матэрыялы ў свой час былі вывезены ў Маскву, таму доступу да іх няма.

**Я.К.**

---

## *Паменела медалістаў*

Сёлета ў Беларусі адзначана зніжэнне колькасці медалістаў. Калі ў 2001 годзе працэнт медалістаў ад агульнай колькасці выпускнікоў агульнаадукацыйных школ складаў 9,5%, то сёлета – 6,8%. Пры гэтым колькасць сярэбраных медалістаў знізілася больш як удвая, залатых – засталася на ранейшым узроўні. Зніжэнне колькасці медалістаў звязана з прыняццем у 1999 годзе новых правілаў уручэння медалёў. Цяпер, каб атрымаць медаль, неабходна вучыцца на «выдатна» не два апошнія выпускных класы, а чатыры.

---

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**

**1825**

ГАСПАДАРКА

# Каля Польшчы і калгаснік – інвестар

**Былым «заходнікам» прапануецца зноў стаць уласнікамі.**

Толькі 8 сельгаспрадпрыемстваў на Гродзеншчыне пачалі сёлетняе жніво са сваімі грашыма на банкаўскіх рахунках. Трэцяя частка – зусім банкруты, і ім не хопіць ніякага ўраджаю, каб разлічыцца па даўгах. Усім астатнім з планаваных даходаў трэба пакрыць раней атрыманыя крэдыты на агульную суму каля 90 мільярдаў рублёў. Не выпадкова, што яшчэ на старце жніва на месцах зноў шукаюць выратавальныя рэцэпты ад фінансава-эканамічнай безвыходнасці.

Фатальная лічба 13 не палохае стваральнікаў яшчэ адной мадэлі рэфармавання калгасаў у Лідскім раёне. Для аб'яднання чартавага тузіна гаспадарак эксперыментатары з мінскіх навуковых установаў прыдумалі рабочую назву «Агра-Кампані-Ліда». Папулярызуючы ідэю ў глыбінцы, кандыдат сельскагаспадарчых навук М. Антоненка даводзіць, што яе галоўны сэнс – зрабіць з калгасніка інвестара. Дзеля гэтага давядзецца напачатку стварыць адно буйное акцыянернае таварыства, а потым напладзіць шэраг унітарных аграрных прадпрыемстваў на прыватным капітале і арандаванай зямлі. Распрацоўшчыкі такой схемы рэфармавання дзейнічаюць у юрыдычным полі новага грамадзянскага заканадаўства, і ў іх задуме прасочваецца відавочная спроба нівеліраваць калгас як найбольшых уладальнікаў зямлі. У складзе аднаго ААТ калгасы могуць драбніцца на часткі; сем'і, радня, брыгады вольныя браць у арэнду зямлю на 99 гадоў і тым самым прынцыпова пераходзіць ад цяперашняй працы з-пад палкі да ўласніцкай зацікаўленасці.

Адмыслоўцы падлічылі, што пры зліцці калгасаў Лідскага раёну ў адно ААТ апошняе будзе валодаць уласным капіталам у 100 мільёнаў даляраў. Зямлю і маёмасць, што ўтвараюць гэтую суму, можна ўмоўна размеркаваць па прынцыпе падзелу паёў між калгаснікамі. Далей агульныя сходы маюць права вырашаць, колькі выпусціць акцыяў, якім зрабіць іхны намінальны кошт, а таксама зацвярджаць парадак іх продажу альбо перадачы, дарэння і г. д. Гэта, вядома, доўгі і заблытаны бюракратычны працэс, амаль неверагодны ў Беларусі, тым больш што ягоны прынцыповы напрамак супрацьлеглы цяперашняму, калі шыльду мяняюць, а калгас застаецца. Адно спадзяванне, што крытычная сітуацыя паставіла вяскоўцаў перад выбарам: ці самім рабіцца айчыннымі інвестарамі, ці спадзявацца на чужога дзядзьку.

**Галіна БАРАВАЯ**

# У Езярышчы сумуюць па фестывалі

Трэцяга жніўня ў мястэчку Езярышча (Гарадоцкі р-н) плануецца даць пачатак рок-фестывалю «Маладзёжны прарыў-2002». Ён ладзіцца чацвёрты год запар і кожным разам пашырае геаграфію ўдзельнікаў. Зараз да трох мясцовых гуртоў хацелі б далучыцца сябры з Віцебску і Шуміліна; ёсць таксама спадзяванні на прыезд мінскага гурта «Млын». У Езярышчах сёлета ў сувязі з аварыйным станам зачынены сельскі Дом культуры, і мясцовая моладзь, як шчаслівага падарунка, чакае музычны фестываль. Аднак, магчыма, яе чакае расчараванне.

Арганізацыя рок-фестывалю трымалася дагэтуль на фінансавым сілкаванні ад дыскатэкаў у СДК. А паколькі танцпляцоўка цяпер пад замком, то культрработнікі звярнуліся па фінансавую дапамогу да раённага і абласнога кіраўніцтва. З кабінетаў прыйшлі адпіскі – сродкаў ва ўлады няма.

Няма грошай на нізавую ініцыятыву, але ёсць гіганцкія сумы для «Славянскіх базараў» і фарбавання платоў перад сустрэчамі высокіх гасцей.

Зараз, прыкладам, у Гарадку рыхтуюцца да візіту старшыні Саўміна Генадзя Навіцкага. Дзесятай долі з таго, што трацяць улада і прадпрыемствы да гэтага саноўнага агляду, хапіла б, каб годна правесці маладзёжны музычны фестываль.

**Ганна КЛІМАВА**

*P.S.* Хто можа дапамагчы ўратаваць цікавы фестываль «Езярышча. Маладзёжны прарыў-2002», – звяртайцеся, калі ласка, да арганізатараў праз тэл. 8-02139-33-485 або 8-02139-34-733.

РАЗВІТАННЕ

# Пайшоў з жыцця Уладзімір Кармілкін

14 ліпеня памёр вядомы беларускі фотакарэспандэнт Уладзімір Кармілкін. Падчас важных падзеяў у жыцці Беларусі ён заўсёды быў у іхнім віры са сваёй фотакамерай на раменьчыках. Уладзімір Кармілкін лавіў гэтыя імгненні, няўрымслівы і самааддана ствараючы фотахроніку нацыянальнага адраджэння і дэмакратычных пераўтварэнняў найноўшай беларускай гісторыі. Учора Уладзіміра Кармілкіна пахавалі ў Мінску на Усходніх могілках. Светлая памяць яму, сапраўднаму прафесіяналу і добраму чалавеку!



**Уладзімір Кармілкін (першы справа) на ўрачыстым сходзе інтэлегенцыі, які ўхваліў гімн «Магутны Божа» як нацыянальны**

# У Брэсце – «Свабодны тэатр»

Нефармальнае аб'яднанне непрафесійных акцёраў заявіла пра сябе ў горадзе над Бугам. На сцэне Палаца культуры ў мікрараёне «Вулька» адбылася прэм'ера спектакля «Елізавета Бам». Гэта аднагадзінная пастаноўка, складзеная паводле 20 твораў Даніила Хармса і эпізодаў біяграфіі самабытнага аўтара. Сцэнарый спектаклю напісала стваральніца «Свабоднага тэатру» Аксана Гарбацюк.

Тое, што новы кірунак тэатральнай дзейнасці ўзяў свой пачатак менавіта ў Брэсце, нельга назваць выпадковым. Ягоныя прыхільнікі прайшлі кароткатэрміновыя курсы ў польскім горадзе Познані. У замежжа іх запрасілі на міжнародны фестываль вулічных тэатраў *Sztuka ulicu*

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

РЫЗЫКА

# Забівае вада

Калі на вуліцы як у распаленай печы, кожны вырашае сам: купацца альбо не. Пасты назіраннянў санэпідэмслужбы фіксуюць зараз працэсы цвіцення вады – нястрымнае развіццё дробнай водарасці. Як хутка зелень адрастае, так і гіне, з-за чаго пагаршаецца бактэрыялагічны стан вады, множыцца кішэчная палачка. Зараз цвітуць вадаёмы Лошыцкай сістэмы, Чыжоўскае і Сляпянскае вадасховішчы. Забаронены для купання Мінскае мора, вадаёмы ў зонах адпачынку «Дразды», «Крыніца».

І ўсё ж такі на злом галавы лезуць у небяспечную ваду людзі. Толькі за адзін дзень – 16 ліпеня – у вадаёмах Мінску патанулі 4 чалавекі. Усяго ў Беларусі лік людзей, што загінулі і пакалечыліся на вадзе пераваліў на чацвёртую сотню.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

КУЛЬТУРА

# Маёнтак графа Чапскага прыме валанцёраў

З 21 ліпеня па 2 жніўня 2002 году ў Прылуках, былым маёнтку Горватаў і Чапскіх паблізу Мінску, пройдзе валанцёрскі лагер па добраўпарадкаванні старажытнага парку. Яго арганізатар – маладзёжнае грамадскае аб'яднанне «Новая група» сумесна з Беларускім навукова-даследчым інстытутам абароны раслін. Як паведамілі ў аб'яднанні, у працы лагера возьмуць удзел 15 валанцёраў з Беларусі, а таксама, у якасці госця, прадстаўнік Італіі.

Палацава-паркавы ансамбль «Прылукі» – помнік архітэктуры канца 18-га стагоддзя. У палацы месціцца Беларускі НДІ абароны раслін, які падтрымлівае палац і парк у добрым стане. Гісторыя Прылукаў вядомая з 1635 году, калі Ганна Сціпкевіч адкрыла тут праваслаўны манастыр, які праіснаваў больш за 100 гадоў.

**Вольга АСІПЕНКА**

ЗАБРАНАЯ СПАДЧЫНА



Фота У. Шчапанка

**Па чутках, мінскія будынкі былога касцёла і кляштара бернардзінаў будуць аддадзены пад гатэлевы комплекс**

# Коней скралі, а мытню зачыняюць

Ліквідуецца Воранаўская мытня. Яе начальнік М.Папылін не можа адназначна сказаць, які лёс чакае персанал гэтай вельмі прэстыжнай у правінцыі ўстановы. Магчыма, некаму пашанцуе застацца, бо з Мінску даходзяць чуткі пра магчымасць захавання ў Воранаве дробнага філіялу Гродзенскай ці Лідскай мытняў альбо кантрольнага паста з яшчэ меншым штатам.

Мяжа дае працу яшчэ адной установе з людзьмі пры пагонах – Воранаўскага РАУС. Тамтэйшыя міліцыянты сёлета атрымалі заявы ад жыхароў вёсак Базылі, Пасека-Дварчаны, Лоўцы і іншых аб крадзяжы 14 коней. Крымінальныя справы па іх не раскрытыя, бо сляды ад капытоў вядуць за мяжу...

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# «Будні» Ленінскага суду

***Мінуліся два з паловай тыдні пасля заканчэння працэсу над журналістамі «Пагоні», і ў тым жа самым будынку Ленінскага суду Гродна пачалі судзіць удзельнікаў «ланцуга неабыякавых людзей». Судзіць доўга і нудна. Бо віна іхняя выдумана міліцыянтамі, якія вырашылі перастрахавацца. Цяпер яны мусяць замест службы гадзінамі праседжваць у задушных памяшканнях, каб «абараняць свае пазіцыі». Выступаць адначасова за абвінаваўцаў і сведак. «Сведак», якія самі арыштоўвалі невінаватых людзей. Усім горача, усе пацеюць. Абсурд робіцца яшчэ больш відавочным. Пагатоў адносна большасці затрыманых суддзі выносяць рашэнне – аб'явіць ім вусную заўвагу. Бо караць няма за што.***

А ўсё было так. 11 чалавек стаялі з партрэтам Д.Завадскага. На некаторых, праўда, былі яшчэ майкі з партрэтамі зніклых і з надпісам «Хочам ведаць праўду». (Гэтыя майкі суддзі разглядалі ледзьве не як надзвычайную крамолу.) На «ланцуг» ніхто не звяртаў увагі. Побач за столікамі вулічнага бару публіка піла піва. Знянацку з другога канца вуліцы пачала набліжацца тэлездымачная група з трох чалавек. Здавалася б, яе сам Бог паслаў! Аднак польская тэлегрупа, даведаўшыся, што Завадскі, Захаранка, Ганчар і Красоўскі – не палякі, а беларусы, дэманстратыўна знікла на падворку за брамаю – якраз насупраць людзей, якія трымалі партрэт. Праз некаторы час палякі выйшлі і пачалі здымаць на вуліцы інтэрв'ю з тутэйшай полькай. Гэта працягвалася яшчэ хвілін 10–15. Да ўдзельнікаў «ланцуга» нарэшце пад'ехала міліцэйская машына. Палякі, скончыўшы запіс інтэрв'ю, вярнулі тады відэакамеру ў бок людзей з партрэтамі. Хвілінку-другую знялі сцэну размовы з міліцыянтам і пайшлі далей. А яшчэ праз хвіліну пад'ехалі дадаткова дзве міліцэйскія машыны. Дзесяць чалавек мусілі сесці ўсярэдзіну, і «ланцуг» знік.

У судзе пачалі разбіраць пратаколы, пачалі вяртаць іх назад у міліцыю. Аднаму з затрыманых запісалі, напрыклад: віна яго ў тым, што «ўдзельнічаў у санкцыянаваным пікеце». А раз пікет «санкцыянаваны», за што тады затрымліваць? Пратакол вярнулі, каб «ухілілі супярэчнасці». Старшыні праўлення нумізматычнага таварыства запісалі, што ён кіраўнік «матэматычнага» таварыства. Камусьці нарабілі ў пратаколе запісаў алоўкам. Міліцэйскія «сведкі» расказвалі, што «ананімная жэншчына» пазваніла па тэлефоне і паскардзілася на людзей з партрэтам Завадскага. Расказвалі, як «камеры дарагія бегалі вакол, апараты» – побач з «ланцугом». Напачатку гэтыя сведкі ўпарта спрабавалі называць партрэт – «плакатам» і нават «плакатам з партрэтам». Каб, значыцца, віна затрыманых была неаспрэчнай. Міліцыянты згаджаліся, што тыя «патрабаванняў палітычнага характару не вылучалі, але рэальна гэта быў пікет, які меў палітычную падаплёку». Бо партрэт зніклага апарата *ОРТ* – гэта «палітыка».

Тры міліцыянты заходзілі ў залу па чарзе і паўтаралі адно і тое ж. Нарэшце ім гэта надакучыла, і яны, заходзячы, са смехам пыталіся: «Можа не трэба ўжо?» Назіраеш за ўсім гэтым і дзіву даешся: міліцыянты паводзяцца ледзьве не як сябры падсудных. На чарговую «вусную заўвагу» для затрыманага адзін з іх нават выгукае «Ура!», дзе амаль не чуваць было сарказму. Суддзі таксама лагодныя-лагодныя. У адказ на словы затрыманага «Каб сказалі менавіта мне разысціся, я б абавязкова разышоўся» смяюцца ўсе – і міліцыянты, і суддзя. І ніхто не можа зразумець: навошта марнуюць час невінаватых людзей, суддзяў, саміх міліцыянтаў? Прадбачу, што мне адкажуць – «суд вызваляе ад адказнасці» большасць затрыманых, але ўсё ж нейкім чынам прызнае іх вінаватымі. Праўда, віна іх нагэтульки неістотная, што з нацяжкай вартая ўсяго толькі «вуснай заўвагі». Пакуль толькі аднаму з затрыманых «выпісалі» штраф на 200 тысяч рублёў. Гэта адбылося неўзабаве пасля таго, як суддзя ў яго строга запыталася: «Апроч партрэта ў руках, на Вас яшчэ была белая майка?» І ён мусіў адказаць: «Была». Так што наступным разам яму давядзецца моцна задумацца, перш чым выйсці на вуліцу – што надзяваць. Калі майку, дык, напэўна, лепей чырвоную, чымсьці белую.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

КРЫМІНАЛ

## *Змрочны прагноз для Мінску*

У найбліжэйшай будучыні цяперашнія негатыўныя тэндэнцыі ў злачынным свеце захаваюцца. Такі прагноз даюць навукоўцы Мінскага навукова-даследчага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем (МНДІСЭПП), характарызуючы перспектывы развіцця крымінагеннай сітуацыі ў Беларусі і ў Мінску. У пяцітамовым «Комплексным прагнозе развіцця гораду Мінску на перыяд да 2020 году», падрыхтаваным аўтарскім калектывам МНДІСЭПП, прагназуецца некаторы рост цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў – забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў, згвалтаванняў і г. д. На думку даследчыкаў, чакаецца таксама павелічэнне колькасці злачынстваў, учыненых арганізаванымі злачыннымі групамі, у тым ліку звязаных з незаконным абаротам зброі і наркатычных сродкаў.

Сярод найбольш сацыяльна трывожных надзённых праблем, на думку навукоўцаў, для Беларусі застаюцца п'янства, алкагалізм і наркаманія. Прычым ужыванне спіртных напояў набыло ўстойлівы масавы характар. Асноўнай прычынай гэтай з'явы даследчыкі лічаць «нізкі ўзровень маральнага выхавання».

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

## Прысуд Чыгіру абвесцяць 23 ліпеня

Прысуд былому прэм'ер-міністру Беларусі Міхаілу Чыгіру абвесцяць 23 ліпеня.

Крымінальны пераслед Міхаіла Чыгіра распачаўся ў кампанію апазіцыйных прэзідэнцкіх выбараў у траўні 1999 году: з 30 сакавіка па 30 лістапада 1999 году Міхаіл Чыгір праседзеў за кратамі, пасля чаго быў выпушчаны на волю пад падпіску аб нявыездзе.

19 траўня 2000 году Мінскі гарадскі суд прыгаварыў Міхаіла Чыгіра да трох гадоў зняволення з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады. Тады суд прызнаў былога прэм'ера вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў, якое выявілася ў незаконнай, на яго думку, адтэрміноўцы па мытных плацяжах фірме «Піяск». Аднак апазіцыйны палітык не пагадзіўся з абвінаваўчым прысудам, абскардзіўшы рашэнне Мінгарсуду ў Вярхоўны суд, які накіраваў справу на даследаванне.

21 траўня 2002 году вернутая з дадатковага расследавання справа пачала разглядацца ў Фрунзенскім судзе Мінску пад старшынствам суддзі Наталлі Варэнік. Міхаіл Чыгір абвінавачваецца ў службовай халатнасці і няўплаце падаходнага падатку. За злачынствы, прыпісаныя яму следствам, М.Чыгіру пагражала 7 гадоў зняволення. Аднак 5 ліпеня пракурор Юркевіч запрасіў для былога прэм'ера тры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, з выплатай «Белаграпрамбанку» 10 мільёнаў даляраў ды Фрунзенскай падатковай інспекцыі – 10 тысячаў даляраў, з пазбаўленнем права займаць кіраўнічыя пасады.

Міхаіл Чыгір кажа пра тое, што суддзя пастаўленая ў складаную сітуацыю: з аднаго боку, па словах былога прэм'ера, суддзя павінна апраўдаць яго, з другога боку – яна знаходзіцца пад шалёным ціскам уладаў. Таму прадказваць вынікі прысуду М.Чыгір не стаў.

**Рыгор БУЯН**

# Асветніцкая справа без удзелу дзяржавы

## *Сем гадоў дзейнасці «Беларускай перспектывы»*

**У 1995 г. прадстаўнікі беларускай інтэлектуальнай эліты заснавалі Грамадскі навукова-аналітычны цэнтр «Беларуская перспектыва». Арганізацыя займаецца працай навукова-аналітычнага і асветніцкага характару. Сярод іншых яе задач – распаўсюджванне ўсебаковых ведаў пра Беларусь як сярод беларускіх грамадзян, так і ў іншых дзяржавах. У1999 годзе назва арганізацыі была зменена на Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Беларуская перспектыва». Пра яго сённяшнія справы расказвае Валянціна Трыгубовіч, старшыня БП.**

– Наша мэта – спрыяць станаўленню Асобы, бо гэта ў кожнай краіне найбольшая каштоўнасць. Мы стварылі Народны універсітэт, і яго слухачы маюць магчымасць праслухаць курс лекцыяў па гісторыі Беларусі, гісторыі культуры Беларусі, паліталогіі і геапалітыцы, па рынкавай эканоміцы, сутнасці і праблемах пераходнага перыяду; падрыхтаваны праграмы па мясцовым самакіраванні, экалогіі, грамадскіх арганізацыях. Большасць ініцыятываў мы накіроўваем на правінцыю. У прыватнасці, заняткі праходзілі ў Гародні, Брэсце, Бялынічах, Магілёве, Віцебску, Лідзе, Слоніме, Баранавічах. На пачатку рэалізацыі праграмы меркавалася, што на занятки будуць збірацца людзі з пэўным досведам працы ў адміністрацыйных структурах улады. Але практыка паказала, што асветніцкую працу на праўдзівых фактах дзяржава не вітае. Калі чыноўнікі прыходзілі да нас, то потым у іх былі рознага кшталту непрыемнасці.

**– Калі ўлада не дапамагае, то хоць не перашкаджае?**

– У 1999 годзе на перарэгістрацыю арганізацыі спатрэбіўся цэлы год. Падчас правядзення асветніцкіх семінараў у гарадах мы ўвесь час сутыкаемся з тым, што практычна немагчыма зняць памяшканне ў арэнду. Калі ж нейкая арганізацыя і здае памяшканне, то потым немінуча адбываецца «наезд» на ўладальніка залі. Таму іншы раз даводзіцца ладзіць заняткі на прыватных кватэрах, а гэта, у сваю чаргу, спараджае мноства праблем.

**– Разам з тым «Беларуская перспектыва» не ігнаравала мінулую выбарчую кампанію, хоць лёгка было прадказаць, на чым баку будзе перавага, і пралічыць больш спрыяльнае стаўленне ўлады?**

– У часе апошняй прэзідэнцкай кампаніі мы прапанавалі інфармацыю пра ўсіх кандыдатаў без выключэння. Мы аналізавалі праграмы з пункту гледжання іх карысці для Беларусі. Акрамя таго, мы ўдзельнічалі ў кампаніі «Выбірай», падтрымлівалі назіральнікаў. Уся гэтая дзейнасць накіравана на выбаршчыка, каб ён разумеў, для чаго патрэбны выбары, кантроль і назіранне за імі.

**– А ці на карысць Беларусі інтэграцыя з Расіяй?**

– З Расіяй у нас павінны быць такія ж дзелавыя партнёрскія дачыненні, як і з любой іншай краінай. Мы ж увесь час як бы забываем, што Беларусь – самастойная краіна, а не адна з 15-ці рэспублік, як гэта было ў савецкія часы. Натуральна – калі аб'ядноўваюцца сувымерныя аб'екты, а калі сутыкаецца селядзец з акулай, – адбываецца паглынанне.

**– Якія новыя праграмы ў актыве вашай арганізацыі?**

– Народны універсітэт – самая галоўная са створаных намі праграмаў. Акрамя гэтага, кожны год мы рыхтуем даведнік «Хто ёсць хто ў Беларусі». Гэта вельмі значны напрамак дзейнасці, бо ён разбівае яшчэ савецкі стэрэатып пра тое, што кіраўнічая вярхушка павінна быць закрытай.

**– Якой бачыцца перспектыва «Беларускай перспектыве»?**

– Беларусь, якая шануецца ў свеце, якая мае шырокія эканамічныя, палітычныя кантакты з іншымі краінамі, якая клапоціцца пра годнае жыццё сваіх грамадзян, – гэта ўсё і ёсць беларуская перспектыва.

**Людміла ГУРМАН**

АКТУАЛЬНАЯ ЦЫТАТА

***У аснове большасці тых праблемаў, з якімі сёння сутыкнулася эканоміка Бразіліі, таксама ляжыць папулізм.***

**The Economist**



 



# Ці варта папраўляць свечкі ў чужой бажніцы?

## *Гомельскі аблвыканкам і ягоная рада ў справах рэлігій і нацыянальнасцей правялі сустрэчу са святарамі*

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

Гомельшчына лічыцца досыць памяркоўным рэгіёнам, што да рэлігійных прыхільнасцяў. Аднак і тут апошнім часам прыкметнай стала актыўнасць разнастайных канфесіяў, і перш за ўсё пратэстанцкага кірунку. Гэтая акалічнасць у сукупнасці з жаданнем накіраваць іх на «слушную дарогу» і вызначыла, відаць, фармат і змест сустрэчы ўлады са святарамі.



Партнёрскай яе назваць наўрад ці выпадае. На падмостках за сталом прэзідыуму – два аблвыканкамаўскія чыноўнікі. У залі – святары, прадстаўнікі сістэмы адукацыі, «ідэалагічныя» намеснікі старшынь райвыканкамаў. Адчуванне афіцыёзу і нейкай скаванасці. І, падаецца, невыпадкова намесніца старшыні аблвыканкаму Раіса Ціханская, якая вяла сустрэчу і заклікала святароў да дыялогу, урэшце ўпікнула іх: «Ну што вы маўчыце? Такое ўражанне, быццам вы не елі».

Пасля такой рэмаркі Ціханская дала слова кіраўніку рады ў справах рэлігій і нацыянальнасцей аблвыканкаму Уладзіміру Кляўцову, якога пазней назвала «генералам ад рэлігіі».

Так званы «генерал ад рэлігіі» Кляўцоў паведаміў, што зараз у рэгіёне дзейнічае 321 рэлігійная парафія 14 розных накірункаў. Крыху менш як палова з іх – праваслаўныя. Астатнія – каталіцкія і пратэстанцкія. Ёсць нават асобныя суполкі крышнаітаў і бахаістаў.

Як вынікала са словаў дакладчыка, мясцовыя органы ўлады надзвычай устрывожаны спробамі расколу праваслаўя, а яшчэ – ростам колькасці пратэстанцкіх суполак і пашырэннем іхняга ўплыву на насельніцтва. Такіх суполак у рэгіёне ўжо звыш сотні, альбо 36 працэнтаў ад агульнай колькасці па ўсіх канфесіях.

«Генерал ад рэлігіі» бачыць у гэтым актыўнасць замежных місіянерскіх цэнтраў, што значна падтрымліваюць тутэйшыя пратэстанцкія суполкі фінансава і матэрыяльна.

Прыкладна паўдзесятка рэлігійных суполак Саюзу евангельскіх хрысціян-баптыстаў не жадаюць рэгістравацца. Яны ж, як сцвярджаў Кляўцоў, разам з хрысціянамі веры евангельскай падчас прэзідэнцкіх выбараў схільныя былі да палітызацыі, да падтрымкі асобных палітычных партый. А гэта, маўляў, ужо занадта.

Асобна згадваліся так званыя дэструктыўныя рэлігійныя суполкі. Паводле некаторых падлікаў, іх каля 20 – сатаністы, прадстаўнікі Вялікага белага брацтва, мунаўцы ды некаторыя іншыя.

У гэтым жа шэрагу – усялякія хатнія духоўнікі, магі, чараўнікі, што імкнуцца замарочыць розум і душы людзей і атрымаць свой хабар. Сігналы пра іхнюю дзейнасць, на думку арганізатараў сустрэчы, павінны праваярацца не марудзячы.

Адмыслоўцы ўладных структураў, педагагічных калектываў, установаў культуры павінны наогул вывучаць, што «адбываецца з насельніцтвам, з моладдзю».

Дакладчык, а пасля яго і прадстаўнікі падатковай інспекцыі, міліцыі шмат казалі пра ўсялякія парушэнні рэлігійнымі арганізацыямі беларускага заканадаўства.

Пабудавалі малітоўны дом і афармілі на прыватніка – парушылі жыллёвае заканадаўства і зямельны кодэкс.

Выступілі ў навучальнай установе – пераступілі закон пра адукацыю.

Запрасілі замежнага прапаведніка без дазволу ўладаў – зноў парушэнне.

Ладзілі масавае набажэнства – зноў-такі ўвайшлі ў канфлікт з законам пра сходы і мітынгі.

У гэтай сувязі вельмі красамоўнай была заўвага рабіна Леаніда Дзіменштэйна.

– Цяпер мяне асабіста, – сцвярджаў рабін, – па руках і нагах скаваў дэкрэт прэзідэнта № 8. Мы існуем на ахвяраванні. У асноўным на ахвяраванні замежных арганізацыяў. І кожны месяц, калі прыходзяць гэтыя сціплыя сродкі, я вымушаны ісці ў банк і пісаць клятву, што гэтыя няшчасныя 100–120 даляраў я не буду выкарыстоўваць на звяржэнне існуючай улады.

Вельмі незадаволены прадстаўнікі рэлігійных арганізацый тым, што новы закон пра свабоду сумлення ўлады прымаюць патаемна.

На сходзе гэтая хвалюючая тэма таксама не асвятлялася, пакуль пытанне не ўзнялі святары пратэстанцкіх суполак.

– Мы, – заявіў, у прыватнасці, памочнік прэсвітэра царквы «Адраджэнне» хрысціян веры евангельскай Уладзімір Драбышэўскі, – пра ўсё астатняе болей абазнаныя, чым пра гэты закон, які зараз распрацоўваецца. Апроч таго, сродкі масавай інфармацыі, а іншым разам і прадстаўнікі органаў улады, нагнятаюць сітуацыю, вылучаючы праваслаўную царкву як вядучую, як больш традыцыйную. Я думаю, што для гэтага няма асаблівых падстаў.

Дарэчы, спроба неяк узвысіць праваслаўе зусім нечакана выявілася і на сустрэчы са святарамі. Калі дацэнт універсітэту імя Ф.Скарыны Віктар Адзіночанка нагадаў падчас выступу вынікі сацыялагічных даследаванняў сталічных навукоўцаў пра тое, што найбольшая колькасць моладзі – у пратэстанцкіх абшчынах, з залі да «прэзідыуму» выбегла з рэплікай нейкая прадстаўніца інстытуту павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і абвінавацiла выступоўца ў тэндэнцыйнасці, непраўдзівасці «яго сацыялагічных даследаванняў». Больш таго, пачала даводзіць, што, маўляў, у праваслаўных парафіях моладзі ўсё ж такі болей, чым у суполках іншых канфесій.

Арганізатары сустрэчы рэагавалі на «экспромт» неяк вяла, бо, як падалося, ён цалкам упісваўся ў канву «каштоўных указанняў» святарам і кіраўнікам рэлігійных аб'яднанняў з боку ўлады.

– Разумееце, – сказаў мне ўжо пасля завяршэння сустрэчы дацэнт Адзіночанка, – у побытавай свядомасці, у афіцыйнай ідэалогіі ёсць такі міф, што большасць насельніцтва Беларусі – гэта праваслаўныя вернікі. І калі прыводзіш любыя іншыя навукова абгрунтаваныя звесткі, што гэта не зусім так, паведамленне выклікае адмоўную рэакцыю.

Між тым гэтыя самыя навуковыя звесткі сведчаць: 30 працэнтаў пратэстанцкіх рэлігійных суполак складае менавіта моладзь. Прыкладна столькі ж – у каталіцкіх парафіях. І толькі 22 адсоткі моладзі – у праваслаўных прыходах.

Пэўна, гэтая акалічнасць і турбуе ўлады. Таму і вырашана было прытушыць памкненні, перш за ўсё святароў пратэстанцкага крыла, усялякімі «каштоўнымі ўказаннямі», а заадно і напамінкам пра адказнасць перад законам.

Праўдападобна, услед за апазіцыйнымі палітычнымі партыямі і прафсаюзамі ўлады ўсур'ёз бяруцца за кантроль над дзейнасцю рэлігійных арганізацый, і асабліва тых, што дзейнічаюць нетрадыцыйна і з выдумкай.

## *Наяўныя грошы – пад кантроль*

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, у мэтах абмежавання некантраляванага абароту наяўных грашовых сродкаў пры ажыццяўленні індывідуальнымі прадпрымальнікамі разлікаў з суб'ектамі гаспадарання ўносяцца змены ва ўказ кіраўніка дзяржавы ад 22 лютага 2000 году № 82 «Аб некаторых захадах па ўпарадкаванні разлікаў у Рэспубліцы Беларусь».

Прадугледжваецца абавязковасць адкрыцця індывідуальнымі прадпрымальнікамі бягучых (разліковых) рахункаў у банках, калі іх штомесячны даход ад рэалізацыі тавараў (работ, паслуг) складае 1 000 і болей базавых велічыняў. Уводзіцца таксама дадатковая норма, якая абавязвае індывідуальных прадпрымальнікаў адкрываць такія рахункі, калі яны ажыццяўляюць прыём наяўных грашовых сродкаў з выкарыстаннем касавых падсумоўных апаратаў альбо адмысловых камп'ютэрных сістэм.

Уносяцца дапаўненні ва ўказ ад 29 чэрвеня 2000 году № 359. Нагадаем, што дакумент дазваляе разлікі наяўнымі грашовымі сродкамі юрыдычным асобам, іх адасобленым падраздзяленням і індывідуальным прадпрымальнікам у памеры 50 мінімальных заробкаў у месяц.

Змены і дапаўненні ў згаданыя ўказы ўступаюць у сілу з 1 жніўня 2002 году.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

# Абарона спажыўца –

**Пачынаючы ад ліпеня 2002 году правы спажыўцоў пачаў абараняць новы закон. Стары закон «Аб абароне правоў спажыўцоў» аб'ёмам у 20 артыкулаў пратрымаўся восем з паловай гадоў. Цяпер ён разросся больш як удвая. Таму нават тых спажыўцоў, якія стары закон яшчэ дзеля цікавасці пагарталі, ад новага можа проста пацягнуць на сон. Тым не менш грамадскія абаронцы спажыўцоў лічаць гэты дакумент больш дасканалым, чымсьці папярэдні, хоць ужо крыху састарэлым, бо распрацоўваць яго пачалі ажно пяць год таму.**

Што рабіць, калі вам падсунулі суп з мухай, ці калі, не паспелі вы развітацца з тэлемайстрам, ваш тэлевізар зноў не вытрымаў напругі жарсцяў футбольнага матча ці «мыльнай оперы»? Большасць выдасць катэгарычны адказ: «Трэба ісці сварыцца!». Насамрэч гэты падыход ужо састарэў. Сварыцца трэба было за савецкім часам, калі правы спажыўцоў заставаліся нечым віртуальным, бо не былі замацаваныя ў ніякіх дакументах, якімі можна было б патрэсці перад носам прадаўца. Цяпер варта вучыцца скарыстоўваць вопыт «прагнілага Захаду», дзе кемлівыя людзі з дапамогай законаў аб абароне спажыўцоў някепска зарабляюць сабе на жыццё на нядобрасумленных вытворцах і прадаўцах і тым самым няспынна трымаюць іх у тонусе.

Беларускі Закон аб абароне правоў спажыўцоў таксама не вельмі паблажлівы да нядбайных і хітрых прадаўцоў ды вытворцаў. Акрамя грошай у кампенсацыю сваіх матэрыяльных стратаў, з іх можна спагнаць яшчэ няўстойку і кампенсацыю маральнай шкоды. Калі набыты вамі тавар зрабіў шкоду вашаму жыццю, здароўю ці маёмасці, прадавец альбо вытворца будзе абавязаны яе кампенсаваць, нават калі ягонай віны ў гэтым здарэнні няма. Прычым спажыўцам вельмі на руку тое, што ўсе падобныя канфлікты прадаўцам выгадней вырашаць мірнымі шляхамі, не даводзячы спрэчкі да суду. У тым выпадку, калі апошняе слова ў справе скажа суд і яно будзе не на карысць прадаўца, на дадатак да ўсяго яму давядзецца раскашэліцца яшчэ і на аплату судовых выдаткаў і штрафу, які спаганяецца ў дзяржаўны бюджэт як пакаранне за тое, што спрэчка не была ўрэгуляваная ў добраахвотным парадку. Прычым сума штрафу роўная цане іску, а гэта лішні раз пацвярджае тое, што скнара плаціць двойчы.

 

# Помная будоўля

Кірыла ПАЗЬНЯК

**Жыхароў тузіну дамоў у прыватным сектары па 4-ым Сляпянскім завулку чакае вымушанае наваселле. Іхняе жытло знясуць, каб на гэтым месцы – у мікараёне Усход, паблізу скрыжавання праспекту Скарыны і вуліцы Філімонава – паўстаў новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі.**



Нацыянальная бібліятэка Беларусі была заснаваная 15 верасня 1922 году – спярша як бібліятэка пры Белдзяржуніверсітэце. Але яна адразу ж стала галоўным кнігасховішчам краіны. Праз 10 гадоў тут налічваўся мільён кніг, а яшчэ праз амаль дзесяцігоддзе, перад вайной, – ужо 2 мільёны. У 1926 годзе бібліятэка стала называцца Беларускай дзяржаўнай, а з 1932 году атрымала яшчэ і імя Леніна. Такім чынам у народзе да галоўнай бібліятэкі Беларусі прышчапілася назва «Ленінка». Сталейшыя пакаленні беларусаў, якія наведваюць бібліятэку здаўна, інакш яе і дагэтуль не называюць. Гэта ў моладзі Нацыянальная бібліятэка – «Нацыяналка».

Ужо ў першыя гады свайго існавання Беларуская дзяржаўная бібліятэка адкрыла філіялы ў абласных цэнтрах і ў Мінску пры Доме ўраду. З цягам часу яны ператварыліся ў самастойныя абласныя бібліятэкі і ва ўрадавую бібліятэку, якая потым стала прэзідэнцкай.

У вайну кніжныя зборы Нацыянальнай бібліятэкі пацярпелі вельмі моцна: нешта вывезлі, штосьці згарэла. Пасля вайны ў фондах заставалася толькі 321 тысяча асобнікаў. На сёння ў бібліятэчным будынку на вуліцы Чырвонаармейскай болей за 7 мільёнаў кніг. Сярод іх – 60 тысяч рарытэтаў, рукапісаў і старадрукаў. У калекцыі кірылічнага друку захоўваецца адзіны ў Беларусі збор выданняў нашага першадрукара Францішка Скарыны – дзесяць выпускаў пражскай Бібліі. У Нацыянальнай бібліятэцы таксама можна пагартаць першыя легальныя беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва», нелегальную «Мужыцкую праўду», першую савецкую беларускамоўную газету «Дзянніца».

Апрача кніжак, у бібліятэцы сабраныя ўсе беларускія газеты, 77 тысяч нотаў, болей за 100 тысяч адзінак захавання выўленчых матэрыялаў, то бок плакатаў, паштовак ды рэпрадукцыяў, блізу 30 тысяч грамзапісаў.

Згодна з сайтам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, сюды штогод наведваецца каля паўмільёна чалавек. Усе яны, натуральна, заўважаюць, што цяперашні будынак бібліятэкі, узведзены ў 1932 годзе па праекце архітэктара Георгія Лаўрова (дарэчы, ён жа аўтар праекта галоўнага корпуса БДУ на плошчы Незалежнасці), спрэс састарэў. У першую чаргу гэта адбіваецца на захаванні і рацыянальным размяшчэнні фондаў, бібліятэчнай тэхналогіі, якая замінае ўкараненню сучасных сродкаў механізацыі і аўтаматызацыі. Выдзяленне для Нацбібліятэкі некалькіх будынкаў гэтых праблемаў не развязала. Наспела патрэба перасяліцца ў новы, вялікі будынак, праект якога быў зроблены архітэктарамі Віктарам Крамарэнкам і Міхаілам Вінаградавым яшчэ напачатку 1990-ых гадоў.

А вось будаўніцтва, узятае пад патранат кіраўніка дзяржавы, мусіць распачацца ў наступным годзе. Сёлета, 15 верасня – у Дзень бібліятэкара і дзень заснавання Нацыянальнай бібліятэкі – адбудзецца ўрачыстая закладка ейнага новага «дому». Гэта будзе сучасны будынак з відам на яблыневы сад. Новая бібліятэка будзе ўяўляць сабой размешчанае на 19 паверхах у шарападобным купале і разлічанае на 14 мільёнаў асобнікаў кнігасховішча, злучанае з чытальнымі заламі праз адмысловыя ліфты. Аздобіць бібліятэку пантэон скульптураў з выявамі вядомых асобаў Беларусі. Мажліва, першай з іх паўстане помнік Скарыну, якому нідзе не знаходзіцца месца ў беларускай сталіцы. Многія чытачы і бібліятэчныя работнікі не выключаюць, што ў скульптурны ансамбль каля бібліятэкі ўлучыцца і бронзавы беларускі прэзідэнт. Зрэшты, Аляксандр Лукашэнка лічыць помнікам сабе ўжо сам будынак бібліятэкі. Для яго гэта не проста будоўля: «У якасці добрай памяці, – сказаў ён аднойчы, – мне як прэзідэнту хочацца пакінуць новы, сучасны будынак Нацыянальнай бібліятэкі».

Кіраўнік дзяржавы патрабуе, каб гэта сталася як мага хутчэй і каб новая бібліятэка адчыніла свае дзверы ў 2005 годзе. Ці ўдасца гэта, некаторы сумнеў ёсць, бо дужа шмат у нас даўгабудаў.

Што яшчэ цікава, дык гэта тое, каму дастанецца стары будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі? Ён месціцца зусім побач з Адміністрацыяй прэзідэнта, і гэта наводзіць на здагадку, хто на яго прэтэндэнт нумар адзін.

# Справа рук спажыўца

Знайсці нейкія парушэнні ў працы прадаўцоў уважліваму пакупніку будзе няцяжка. Возьмем хоць бы адно з дэклараваных законам правоў спажыўца – права на інфармацыю пра тавар. Па-першае, уся такая інфармацыя мусіць быць размешчана на этыкетцы, тары ці на іншым дакуменце, які дадаецца да тавару, і толькі на рускай ці беларускай мове. Іншыя мовы не прызнаюцца. Калі на этыкетцы не будзе перакладу на адну з гэтых дзвюх моваў – лічыцца, што інфармацыя пра тавар адсутнічае, а гэта ўжо парушэнне закону.

Па-другое, у законе падрабязна пералічана, якая інфармацыя абавязкова павінна даводзіцца да ведама пакупніка (ад назвы да звестак пра сертыфікацыю). Натуральна, што адсутнасць аднаго з іх – нагода для пакупніка патрабаваць касавання дамовы куплі-продажу і кампенсацыі стратаў.

Дарэчы, цікава тое, што ў пераліку абавязковых звестак пра тавары, работы і паслугі ў новым законе патрапіў пункт «указанне на выкарыстанне фанаграм пры аказанні забаўляльных паслугаў выканаўцамі музычных твораў». Ці значыць гэта, што цяпер на афішах, якія анансуюць прыезд чарговай расійскай поп-зоркі на нашую зямлю, будзе красавацца папярэджанне, што шоу будзе праводзіцца пад фанаграму? І калі нас не папярэдзяць пра гэта загадзя, ці зможам мы вярнуць назад хоць бы кошт квіткоў пасля канцэрта?

Не трэба забывацца пакупніку і на тое, што рэалізацыя тавару, на які тэрміны прыдатнасці, захавання (харчовыя тавары, медыкаменты...) альбо службы (тавары працяглага выкарыстання) ужо скончыліся, катэгарычна забаронена. І ніякі продаж такіх тавараў па зніжаных коштах, які сям-там яшчэ, бывае, практыкуюць некаторыя прадаўцы, каб пазбавіцца ад залежалага тавару, тут недарэчны. Так што калі вам усё ж такі патрапіла ў рукі, напрыклад, бутэлька пратэрмінаванага піва, а вы заўважылі гэта толькі на апошніх глытках, замест таго каб абурацца, не палянуйцеся і вярніце ў прадаўца грошы за яго, на якія можна будзе купіць яшчэ пляшку – на гэты раз ужо свежага напою.

Каб зрабіць гэта, згодна з новым законам, не трэба абавязкова захоўваць у кішэні «на ўсялякі выпадак» чэкі з усіх крамаў. Хоць чэк і застаўся па-ранейшаму дакументам, які пацвярджае факт пакупкі, але цяпер толькі на той падставе, што ў вас яго няма, ніхто адмовіць у абмене няякаснага тавару вам ужо не зможа. Галоўнае, каб вы змаглі пацвердзіць, што тое піва вы купілі менавіта ў гэтага прадаўца. Збольшага гэтае вострае пытанне актуальна для рынкаў, дзе чэкаў ніколі ніхто не дае, а таму доказам тут можа быць што заўгодна – ад выпадковых сведкаў да скрынкі з аўтографам прадаўца.

Дарэчы, выказаць прадаўцу сваю незадаволенасць якасцю набытага ў яго тавару замест ранейшых 12 месяцаў пакупнік цяпер можа цягам 2 гадоў. А час на роздумы прадаўца, наадварот, скарачаецца: калі пакупнік запатрабуе зменшыць пакупную цану альбо кампенсаваць страты ад няякаснага тавару, прадавец ужо мусіць зрабіць гэта цягам 7 дзён замест былых 14.

Алена ЛАБАНАВА

## ЭКАНАМІЧНЫЯ НАТАТКІ

### Мільярд даляраў для нафтавай прамысловасці

Урад Беларусі выставіць на продаж першыя пакеты акцыяў нафтаперапрацоўчай і нафтахімічнай галінаў напрыканцы лета. Пра гэта паведаміў прэзідэнт канцэрну «Белнафтахім» Іван Бамбіза. Сярод прадпрыемстваў, што будуць акцыянавацца – «Нафтан», «Палімір», «Азот» і «Белшына». Па словах Бамбізы, на дадзеным этапе размова не ідзе пра кантрольныя пакеты, хутчэй за ўсё акцыі будуць прадавацца лотамі па 10%. Ацэначны кошт інвестыцыйнай праграмы, напрыклад, для «Нафтану» – 550–600 млн. даляраў, для «Азоту» – 100 млн. даляраў. Пра свой удзел у гэтым акцыянаванні ўжо абвясцілі «Сургутнафтагаз», «Слаўнафта», «ЛУКойл» і група кампаній «Ітэра». У выніку гэтага мераприемства Беларусь мяркуе прыцягнуць да аднаго мільярда даляраў у выглядзе інвестыцый і платы за акцыі.

### Турыстаў садзяць на коней

Сёлета ў запаведных мясцінах рэспублікі – нацыянальных парках «Нарачанскі», «Браслаўскія азёры» і «Прыпяцкі» – актыўна развіваецца экатурызм на конях, які пачынае займаць належнае месца сярод такіх паслуг, як лячэнне мінеральнымі водамі і глеем, паляўнічыя і рыбалоўныя туры, «вылазкі» на брычках, карэтах альбо на санях узімку. На дадзены момант дзеля адпаведнай паслугі ў запаведных месцах ёсць больш за 150 коней айчынных і замежных парод. Нацыянальныя паркі Беларусі наладзілі кантакты з буйнымі тураператарамі Вялікабрытаніі, Францыі, Нідэрландаў, Германіі, дзе яны штогод бяруць удзел у міжнародных выставах. Асаблівай папулярнасцю ў турыстаў з Еўропы карыстаецца экасафары па нашых маляўнічых і экзатычных, як на іхні погляд, мясцінах.

### Лячэнне па тарыфе

Прыбыткі ад пазабюджэтнай дзейнасці лячэбна-прафілактычных установаў Мінскай вобласці ў першым паўгоддзі 2002 году склалі больш за 4,8 млрд. рублёў, пра гэта паведаміла начальніца ўпраўлення аховы здароўя Мінскага аблвыканкаму Інэса Масла. Паводле яе словаў, найвялікшую ўдзельную вагу ў структуры гэтых прыбыткаў маюць платныя паслугі. На сённяшні дзень у адпаведных установах робяць каля 45 відаў платных паслуг, прычым найбольшую ўдзельную вагу сярод іх мае стаматалогія (33,7%). Зараз на тэрыторыі вобласці працуюць 28 платных зубалячэбных кабінетаў і прыёмаў. Ужо сёлета мяркуецца сур'ёзна пашырыць шэраг платных паслуг медустановаў.

### Раздзяржаўліваемся «напоўніцу»

Урад зацвердзіў спіс прадпрыемстваў рэспубліканскай маёмасці, якія ў працэсе раздзяржаўлівання і прыватызацыі павінны быць да канца 2002 году пераўтвораны ў ААТ (адкрытыя акцыянерныя таварыствы). Паводле дакументу, са 189 прадпрыемстваў Мінсельгасхарчу падначалена 121, Мінпраму – 36, канцэрну «Белнафтахім» – 14, Мінбудархітэктуры – 6 і па 2–3 прадпрыемствы яшчэ некалькім міністэрствам і канцэрнам. У рэгіянальным размеркаванні лідзіруе Гомельская вобласць – 34 прадпрыемствы, далей Мінская – 33 (да таго ж у самой сталіцы – 27), Віцебская – 31, Брэсцкая – 29, Гродзенская – 18, а Магілёўская вобласць мае прыватызаваць 17 прадпрыемстваў.

### МТС і *Velcom* не падзеляць кліентаў

Другі аператар сотавай сувязі ў Беларусі, МТС, лічыць, што аператар *Velcom* вядзе нядобрасумленную канкурэнцыю, калі блакуе званкі з сеткі МТС у сваю сетку, паведаміў дырэктар МТС Эдуард Макар'еў. Аднак прадстаўнікі *Velcom* выказалі думку, што МТС надта позна абвесціла кампанію аб сваім выхадзе на рынак, каб паспець заключыць адпаведныя дамовы. МТС стала другім аператарам у чэрвені 2002 году. 51% кампаніі належыць беларускаму прадпрыемству «Міжнародная тэлефонная сувязь», 49% – расійскаму МТС. Акцыі ж *Velcom* размеркаваны так: 31% належыць дзяржаўнаму «Белтэлекаму», 49% – беларуска-кіпрскаму *SB Telecom* і 20% – беларускаму «Белтэхэкспарту». На дадзены момант адносіны паміж *Velcom* і МТС лічацца рабочымі; яны склаліся на падставе закону РБ, дзе гаворыцца, што ўзаемаадносіны паміж аператарамі здзяйсняюцца на дагаворнай аснове.

### Жыллёвае будаўніцтва індывідуалізуецца

Індывідуальныя забудоўшчыкі ўводзяць у эксплуатацыю больш за палову жылля ў Мінскай вобласці. Па выніках працы за 6 месяцаў 2002 году ў вобласці ўведзена 272 366 кв.м жылой плошчы. Пры гэтым доля індывідуальных забудоўшчыкаў склала 69,4%. У сельскай мясцовасці за гэты перыяд уведзена і пабудавана 161 720 кв.м. жылля. За перыяд з пачатку году на жыллёвае будаўніцтва ў Мінскай вобласці накіравана інвестыцый у аб'ёме 62 млрд. рублёў.

Андрэй КАРПОВІЧ

# Кватэры за даўгі

**Калі ўжо і з абласных гарадоў Беларусі даходзяць весткі пра скандальныя высяленні тамтэйшых людзей з кватэраў, то, значыцца, у краіне ў глыбіню пайшоў працэс разбурэння ад сацыяльнай напругі яшчэ адной ідэалагічнай шырмы, што прыкрывала быццам бы прыстойны лад жыцця электарату. Саўковая камуналка, якая па сутнасці ніколі не адлавядала агульнапрынятаму ў цывілізаваным грамадстве правілу «мой дом – мая крэпасць», пачала траціць функцыю даха над галавой.**

18 чэрвеня гэтага году суд Кастрычніцкага раёну Гродна вынес рашэнне, згодна з якім Мікалай Л., жыхар аднаго з дамоў, якія абслугоўвае ЖЭС № 7, павінен быць выселены з двухпакаёвай кватэры на вуліцы Суворава. Для мужчыны гэта быў куток, прыдбаны за многія гады сямейнага жыцця і дысцыплінаванай працы. Кватэру ён атрымліваў праз чаргу ў гарвыканкаме на ўмовах дагавору найму жыллёвай плошчы. Аднак суд не збіраўся высвятляць, з-за чаго Мікалай Л. стаў бедным і адзінокім. Іск да 45-гадовага грамадзяніна быў прад'яўлены паводле не аплачаных з 2000 году рахункаў за карыстанне жыллёвым памяшканнем і камунальныя паслугі. ЖЭС адключаў яму ваду, электрыкі – святло, газавікі – газ.

Небараку ўсё ж не выкінулі на вуліцу. Прымаючы рашэнне па іску жыллёва-рамонтна-эксплуатацыйнага ўпраўлення (ЖРЭУ), якое валодае ў Гродне жыллёвым фондам мясцовых Саветаў, суд кіраваўся артыкулам № 71 Жыллёвага кодэксу РБ. У адпаведнасці з ім «грамадзяне, якія ўхіляюцца без уважлівых прычынаў на працягу шасці месяцаў ад унясення платы за карыстанне жылым памяшканнем і камунальныя паслугі, могуць быць выселеныя па рашэнні суду з прадстаўленнем жылога памяшкання спажывецкіх вартасцей на агульнай плошчы меншай за займаную на ўмовах раней заключанага дагавору найму жылога памяшкання». Гэтая складаная юрыдычная цытата прыведзена без скарачэнняў, каб было зразумела, што пасля суду вярнуць ранейшую кватэру немагчыма. Не дапамогуць нават сваякі, калі захочуць пакрыць суму неплацяжоў гора-гаспадара. Судовыя выканаўцы не раяць таксама хавацца за замкамі кватэры, бо, каб высяліць, збіраецца цэлая каманда: судовыя выканаўцы, начальства ЖЭСу, прадстаўнікі міліцыі, рабочыя з ломам.

Мікалаю Л. падшукалі кватэру на вуліцы Чырвонапартызанскай. Тут прывязны газ і печка, для якой трэба нарыхтоўваць дровы. З выгодаў у кватэры толькі халодная вада.

У Гродне сёлета былі тры прымусовыя перасяленні, у Брэсце – пяць, у Гомелі – тры. Разгляду судовых справаў яшчэ больш як шасцісот хранічных неплацельшчыкаў не адбылося, бо як толькі пытанне ставіцца рубам, грошы на пакрыццё запазычанасці ўносілі былыя жонкі, дзеці і г.д. А ўвогуле спецыялісты Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі кажуць, што за апошні час іхнія нізавыя структуры выдалі больш як 230 тысячаў пісьмовых папярэджанняў. У 60 тысячах кватэрах аформленыя натарыяльныя дакументы, якія прадугледжваюць спагнанне з неплацельшчыкаў грошай па месцы іхняй працы.

Зразумела, што даўгі перадусім растуць за тымі, хто страціў сталую працу альбо жыве на мізэрную пенсію. Але сярод уладальнікаў двух мільёнаў асабовых рахункаў, за якімі зараз лічыцца запазычанасць па кватэрнай плаце – значная праслойка сем'яў, якія яшчэ нядаўна не лічыліся беднымі. Іхняя прыбыткі не паспяваюць за ростам кватэрнай платы.

Прыкладам, усяго некалькі дзён таму, 15 ліпеня, мінуў тэрмін разліку па тарыфах, падвышаных у чэрвені. За кожны дзень пратэрміноўкі, як гэта прадугледжвае Жыллёвы кодэкс, на суму плацяжоў налічваецца пеня ў памеры 0,5%. А да 15-га чысла за стандартную аднапакаёвую кватэру сям'я з двух чалавек плаціла каля 14 тысячаў рублёў; двухпакаёўка, дзе тры чалавекі, каштавала 21 тысячу рублёў; трохпакаёвая кватэра для чатырох чалавек – 27 тысячаў рублёў. Калі лета скончыцца і жыллё пачнуць падключаць да цяпла, то расцэнкі павялічацца амаль удвая. Паводле лічбаў прагнозу Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ужо сёлета насельніцтва будзе пакрываць у сярэднім 40% ад сабекошту камунальных паслугаў. У далейшым камунальныя плацяжы плануецца падвышаць на 20% штогод, пакуль дзяржава не вызваліць сябе ад патрэбы выдаткоўваць бюджэтныя грошы на пакрыццё розніцы паміж сабекоштам камунальных паслугаў і аплатай іх насельніцтвам. Гэта будзе вяршыня камунальнай рэформы.




Калі яшчэ раз узгадаць небараку Мікалая Л. з Гродна і ўявіць, як доўга ён біўся, каб атрымаць асобнае жыллё, а потым абрынуўся ў гэтым жыццёвым штурме да кватэрки з прыбіральняй на вуліцы, то халадзее душа ад гэткага масавага прыніжэння людзей.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Хабар як лад жыцця

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

**У галіне адукацыі фактаў хабарніцтва, здаецца, не менш, чым у гандлі фактаў абважвання і аблічвання пакупнікоў. Установы адукацыі даўно ў полі зроку супрацоўнікаў упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ГУУС Мінгарвыканкаму.**

### Выкладчыкі на «жніве» даляраў

Набліжаецца час уступных экзаменаў у сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы – сапраўднае «жніво» для несумленных выкладчыкаў. Нехта Д. гарантаваў паступленне ў авіяцыйны каледж, дзе ён працаваў, калі бацькі прэтэндэнта ахвяруюць 1 000 даляраў. Пасля пэўных разваг бацькі вырашылі параіцца з супрацоўнікамі АБЭЗ: ахвяраваць ці не ахвяраваць. Прадпрымальны выкладчык затрыманы.

### «Іспыты» для бацькоў

Загадчыца аднаго з дзіцячых садкоў Мінску ціха зайздросціла выкладчыкам ВНУ: людзі маюць вялікія грошы. А чым яна горай? І вырашыла ў сваім садку праводзіць «уступныя іспыты» для бацькоў. Усё было справядліва, у адпаведнасці з даходамі бацькоў: з каго брала толькі 20 даляраў, а каму ўладкаванне дзіцяці ў дзяржаўны дзіцячы садок каштавала нават 400 даляраў. «Загадчыца затрымана, зараз вядзецца следства», – паведаміў начальнік аддзелу УБЭЗ ГУУС Мінгарвыканкаму Аляксандр Карчэўскі.

### Гандлююць усе: хто дыпломамі, хто скуранкамі

У індустрыяльна-педагагічным тэхнікуме з незапамятных часоў вучыліся замежныя студэнты. І зараз там праходзяць навучанне грамадзяне В'етнаму. Згодна з дакументацыяй, яны вывучаюць 8 прадметаў. Калі ж супрацоўнікі АБЭЗ пачалі высвятляць, што за прадметы яны вывучаюць, як завуць выкладчыкаў, – навучэнцы нічога не змаглі адказаць. Урэшце на дрэннай рускай мове сказалі, што рускую мову яны і вывучаюць. Нават успомнілі імя выкладчыцы. Але пакольку асноўны навучальны працэс у грамадзян В'етнаму адбываецца на рынку ў Ждановічах, то з міліцыянтамі «студэнты» размаўлялі праз выкладчыка. А самае цікавае, што адна студэнтка ўжо скончыла гэты тэхнікум і ...зноў у яго паступіла. А тлумачыцца ўсё проста: кошт працоўнай візы ў нашу краіну значна адрозніваецца ад кошту візы, якую выдаюць студэнтам. Аплата за навучанне ў тэхнікуме – 700 даляраў у год – каштуе танней за працоўную візу. А выкладчыкі толькі рады «платным» навучэнцам і гатовы гандляваць даведкамі аб атрыманні адукацыі замежнікамі ў нашай краіне.

КЛОПАТ ПРА КІШЭНЬ

# Фальшывыя білеты не спрацуюць

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

**З увядзеннем асобнага праязнога білета на падземны транспарт чэргі ў касах па продажы гэтых самых праязных і жэтонаў ніяк не змяншаюцца. Па каментар НАША СВАБОДА звярнулася да начальніка службы руху Мінскага метрапалітэна Рыгора Якімкова.**

– Увядзенне асобнага праязнога білета – у пэўным сэнсе вымушаны захад, – кажа Рыгор Фёдаравіч. – Вядома, што муніцыпальны транспарт на ўсім свеце непрыбытковы, а мінскае метро яшчэ цярпіць ад «зайцоў» ці фальшывабілетчыкаў. Калі ўпершыню з'явіліся магнітныя карткі, нашы «прадпрымальныя» грамадзяне хутка пачалі выкарыстоўваць адзін праязны білет на метро і яшчэ які-небудзь від транспарту на дзвюх асоб. Усё вельмі проста: адзін чалавек ездзіць у метро па картцы, і ніхто ў яго не правярае папяровы білет. А другі з гэтым білетам ездзіць у наземным транспарце. Памятаеце, было напісана, што без магнітнай карткі праязны не сапраўдны? Дык пасажыры аднойчы не мянялі картку, і так у іх атрымліваўся камплект. Людзям выгадна, а транспарту, як падземнаму, так і наземнаму, нанесена вялікая шкода. Уявіце сабе, да гэтага новаўвядзення было 64 віды праязных – рэкордная колькасць у СНД і нават у Еўропе. Праверыць іх сапраўднасць проста немагчыма. Цяпер праз ручны пункт пропуску будуць праходзіць толькі студэнты, школьнікі, пенсіянеры – тыя катэгорыі грамадзян, якія маюць права на пяцідзесяціпрацэнтную аплату кошту праезду.

*– Дарэчы, пра кошт праезду – ён жа павялічыўся: набыццё праязнога на метро і тры віды наземнага транспарту абыходзіцца даражэй, чым раней адзін праязны на ўсе віды...*

– Па-ранейшаму жэтон у метро і талон на трамвай каштуюць 120 рублёў. Праязны білет на адзін від транспарту каштуе 5 400 рублёў. Значыць, кошт праезду не падаражэў. Вядома, што «гуртам» усё танней, нават праязны білет. Цяпер усё будзе так: прадалі праязныя, жэтоны на метро – і ўсе грошы пайшлі ў нашу кішэню.

*– За кішэню метрапалітэна можна парадавацца. І калі новаўвядзенне стане перашкодай для несумленных пасажыраў, таксама добра. Але вось чэргі ў касы вельмі нервуюць людзей і перакрэсліваюць усю зручнасць метро. Ці плануеце вы якія-небудзь захады па паляпшэнні гэтай сітуацыі?*

– Па-першае, мушу нагадаць, што мы пачынаем продаж праязных білетаў на наступны месяц з 21 числа папярэдняга. Значыць, калі вы, напрыклад, набудзеце праязны на метро 25 ліпеня, то яго тэрмін дзейнасці пачнецца 31 ліпеня, а скончыцца толькі 1 верасня. Але тут трэба быць уважлівым: нельга здаваць праязны-картку, па якім вы мусіце ездзіць да канца ліпеня. Такім чынам, зручна мець дзве карткі, каб па адной ездзіць, а другую загадзя мяняць. На жаль, людзі маюць дрэнную звычку ўсё рабіць у апошні момант, таму і чэргі... Яшчэ дадам, што цяпер пасажыры маюць магчымасць набыць дэкадны праязны з зручнага для іх дня, а не так, як было раней – з 1, 11, 21 чысла. Па-другое, там, дзе ёсць тэхнічная магчымасць, мы адчынім дадатковыя касы па продажы праязных і жэтонаў.

*– А на якіх станцыях можна чакаць перамен?*

– На станцыі «Усход» ават у ліпені можа быць адчынена каса. Да верасня плануем пашырыць колькасць касаў на станцыі «Інстытут культуры» і да канца году адчынім дадатковую касу на «Плошчы Незалежнасці».

**Думка пасажыраў метро пра новыя правілы продажу праязных білетаў:**

***Валянціна Пятроўна, працуе на пошце:***

*– Што робіцца: зноў падаражэў праезд. І як усё абставілі! Кошт у розніцу застаўся ранейшым, а праязныя падаражэлі. Калі б павысілі кошт талона ці жэтона, людзі паднялі б бунт, бо заробкі ж не павышаюцца. А так вось вам розныя праязныя, і ўсё тут.*

***Паліна, служачая:***

*– Ненавіджу чэргі, таму, пакуль чалавек восемдзесят нерваваліся ў касах з боку «Багатыра», я пайшла ў касы з боку вуліцы Берута. Там было толькі два чалавекі. Так што людзі і самі ствараюць праблемы там, дзе іх няма.*

***Суяпан Міхайлавіч, рабочы НДІ:***

*– Дрэнна, што ўрэшце праезд падаражэў. Думаю, што не самі транспартнікі гэта выдумалі, а ім падказалі. Да чаго толькі чыноўнікі не дадумаюцца, калі ў бюджэце хранічна няма грошай! А з другога боку, я ведаю, што шмат людзей – ад студэнтаў да супрацоўнікаў НДІ – падраблялі на розных ксераксах праязныя. Ніхто ж іх не -ў стане па-сапраўднаму праверыць. І смех і грэх: усе баяцца толькі аднаго кантралёра. Магнітныя карткі, спадзяюся, пакуль нашы ўмельцы не навучыліся падрабляць. Мне прыкра ад таго, што я плачу за праезд, а нехта едзе бясплатна ды яшчэ мае мяне за дурня.*

***Таццяна, бухгалтарка:***

*– Касірка скардзілася, што мы ў апошні дзень набываем праязныя, аказваецца, гэта можна рабіць з 25 числа. Але чаму ні ў вагонах метро, ні на касах няма абвестак наконт гэтага? Дый гукавую абвестку маглі б «круціць», што ўжо можна набываць праязныя.*

# Дарога да храму


Фота У.Шпалака


Фота У.Шпалака

Падобна да таго, што Мінскі гарвыканкам трымаецца думкі: сіла веры правяраецца непрыемнасцямі.

Узнікненне касцёла ў Мінску на Залатой горцы датуецца 1750-мі гадамі. Тады мясціна была за межамі гораду, і тут былі заснаваныя новыя каталіцкія могілкі, на якіх, паводле звычаю, паставілі невялікую капліцу. Эпідэмія халеры, якая абрынулася на горад напрыканцы 1770-х гадоў, адзначана ў яго хроніцы як катастрофа. Штодня на гарадскіх могілках з'яўляліся новыя шэрагі магілаў. Згодна з старадаўняй мінскай легендай, некаму з гараджанаў прысніўся прарочы сон: эпідэмія адступіцца, калі адшукаць статую святога Роха. Яе знайшлі ў сутарэннях касцёла пры манастыры баніфратраў; урачыстая працэсія пранесла скульптуру па горадзе і паставіла ў капліцы на Залатой горцы. Сапраўды, эпідэмія хутка скончылася, а святы Рох займеў у Мінску вялікую пашану. У сярэдзіне XIX стагоддзя замест драўлянай капліцы пабудавалі мураваны касцёл св. Роха. Пры ім дзейнічала школа арганістаў. У 1930-я гады касцёл зачынілі, а пасля вайны будынак ператварыўся ў сховішча таго кніжнага багацця фондаў Нацыянальнай бібліятэкі, якое было вывезена немцамі ў Нямеччыну і якому не далі месца у асноўных фондах; галоўным чынам гэта былі кнігі на замежных мовах. У часе перабудовы кнігі вывезлі, а касцёл прайшоў павярхоўную рэканструкцыю пад свецкую канцэртную залю. Захаваная частка старажытных могілак існавала яшчэ ў 60-я гады: тут быў скверык з мноствам надмагільных камянёў. Іх і скверык знішчылі, калі тут пачаў будавацца Палац мастацтваў. З яго пабудовай касцёл стаў канчаткова адрэзаны ад вуліцы. У 1990-я гады пачаўся працэс вяртання святыні каталіцкаму прыходу, не завершаны і па сённяшні дзень. Храм вярнулі вернікам часткова: тут дзейнічае яшчэ і малая канцэртная заля філармоніі. З супрацьлеглага боку касцёл раней закрывала агароджа з дзвюма радыёвежамі-глушылкамі за ёю, з якіх адна дастаяла да нашых дзён, а ўчастак за агароджай належыць фірме «БЕЛСЕЛ», відаць, надта ўплывовай, калі яна займела гэтулькі месца ў цэнтры гораду.

Як ні дзіўна, падыход да касцёла дагэтуль не ўпарадкаваны. Гарадскія ўлады заплюшчваюць вочы на прысутнасць побач з касцёльнай брамай (па-іхняму – варотамі малой канцэртнай залі) сметніка і прыватных гаражоў. З боку вуліцы Казлова ўтворана стаянка для службовага транспарту РББ. І вернікі, ідучы на малітву, і слухачы канцэртаў павінны адшукваць касцёл за паркінгам ці за сметнікам.

Калі б мінскі гараданачальнік выбіраўся гараджанамі, а не быў прызначаны зверху, відаць, ён быў бы больш цікаўны да гэтай адметнай мясціны. Бо калі што не робіцца – значыць, гэта зручна для бюракратаў. Можа, там ёсць іхнія гаражы, можа, ім не падабаецца каталіцкая вера і таму няма настрою цывілізавана вырашаць пытанні. А пакуль дарога да храму сведчыць пра нізкую культуру мінскай улады.

**Вераніка ШУМЕЙКА**

Рох (1293–1327) – хрысціянскі святы, які нарадзіўся ў Манпелье. Ён шмат падарожнічаў па Еўропе, прысвяціўшы сябе клопату пра хворых на чуму, патронам якіх і стаў пазней лічыцца. Культ св. Роха склаўся ў XV стагоддзі, ужо пасля таго, як Чорная Смерць пранеслася па еўрапейскіх краінах, вынішчыўшы каля траціны насельніцтва. У 1485 годзе парэшткі св. Роха былі выкрадзены з Манпелье венецыянцамі і перавезеныя ў Венецыю, дзе была заснаваная Школа св. Роха – брацтва, якое пад апякунствам гэтага святога ўзяло на сябе клопат пра хворых. З таго часу такія ўстановы пачалі ўзнікаць у іншых месцах Еўропы.

# «Каб жыць у шчасці, трэба красці і красці...»

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

***Іранічная беларуская прымаўка, што вынесена ў назву, адлюстроўвае народны вопыт. Зладзеі былі заўжды, нават у рэпрэсіўныя сталінскія часы некаторыя намагаліся такім чынам стаць больш шчаслівымі. Але гістарычны вопыт сведчыць, што наступствы любога крадзяжу яшчэ нікому не прынеслі шчасця. У кніжку* «Есть такая служба», *прысвечаную абаронцам эканамічных інтарэсаў нашай краіны, уключаны цікавы артыкул пра злоўжыванні падчас будаўніцтва Вялікага тэатру оперы і балету Беларусі.***

Злачынная група ў складзе былых начальніка будоўлі Вялікага тэатра оперы і балету Я.Куфмана, касіра ўпраўлення будоўлі М.Гулякевіча, загадчыка планавага аддзелу Я.Рытэнбанда, галоўнага бухгалтара будтрэсту І.Стаўровіча так папрацавала на будоўлі Вялікага тэатру оперы і балета, што страты за 1937 год склалі 1 811 000 рублёў. А пачыналася ўсё вельмі проста: спачатку Куфман і Рытэнбанд палічылі, што ў іх малы заробак, і самі сабе яго павысілі на 300 рублёў у месяц. Каб было зручней «працаваць», па Куфманавым загадзе ў банку быў адкрыты таямнічы «рахунак прамкааперацыі». Усе праводкі па ім рабіліся, мінаючы бухгалтэрыю. Ці гэта не праваобраз цяперашніх «аднадзёнак»?

У ходзе следства было высветлена, што Куфман аплачваў камандзіроўкі, не патрабуючы дакументальнага пацверджання выдаткаў. Яго «кампаньёны» так стамляліся складаць фіктыўныя паперы, што кожны месяц атрымлівалі грошы «на лекавыя мэты». Гэтыя грошы зноў-такі ніяк не праводзіліся праз бухгалтэрыю. Наадварот, рабілася ўсё магчымае, каб заблытаць дакументацыю. Бухгалтара Стаўровіча суд ахарактарызаваў як майстра фальшаванняў. Ведаючы, што на будоўлі адна з самых высокааплатных прафесій – землякопы, ён вырашыў разам з хаўруснікамі зарабіць на гэтым. Разам з тэхнікам Ермаліцкім бухгалтар прыйшоў дадому да касіра Гулякевіча. На своеасаблівай нарадзе яны распрацавалі, як цяпер кажуць, «схему», па якой грошы землякопаў будуць апынацца ў іх кішэні. Па гэтай «схеме» на працягу двух гадоў было скрадзена 70 тысяч рублёў. З гэтай сумы 15 тысяч дасталося Стаўровічу, астатнія – Ермаліцкаму, Гулякевічу і Куфману. У Стаўровіча, як у бухгалтара, была магчымасць «уносіць праўкі» ў любы дакумент, што ён і рабіў, каб яшчэ раз атрымаць грошы.

Касір Гулякевіч не адмаўляўся ад удзелу ў крадзяжах, але ён не памятаў, колькі скраў, бо не вёў улiку злачынных даходаў. А вось следства падлічыла, што касір скраў 22 тысячы.

Ермаліцкі, будаўнік па прафесіі, меў талент выдумляць прозвішчы неіснуючых будаўнікоў і складаць дакументы на такія ж няісныя працы. Гэта ён рабіў правай рукой, а левай распісваўся за гэтых «будаўнікоў» у ведамасцях на атрыманне заробку. Той рэдкі выпадак, калі левая рука добра ведала, што робіць правая.

Усе ўдзельнікі злачыннай групы былі звязаны паміж сабою змовай, што дазваляла ім лёгка «замятаць сляды». Аднак здараліся і ў іх непрыемнасці. Адзін з хаўруснікаў, нехта Рыбакоў, нешта не падзяліўшы з астатнімі, прыгразіў, што «здасць усіх». На кватэры ў Куфмана адбылася нарада, на якой вырашылі даць Рыбакову 1 000 рублёў і выпраўдзіць яго з Мінску. Перадаваў грошы Эйдзін. Гэтая асоба заслугоўвае адмысловай увагі. Ён працаваў кіраўніком дамоў у Белпрамбудтрэсце. Па-першае, па Куфманавай пратэкцыі яму прапаноўвалі невялікія будаўнічыя падрады. Ніхто не звяртаў увагі, што ён не мае адпаведнай спецыяльнасці. Але дачыннасць да будоўлі дазваляла красці паводле Куфманавай «схемы». Па-другое, Эйдзін выконваў розныя далікатныя даручэнні. Напрыклад, набываў дарагое сукно для гарнітура «ў падарунак» былому дырэктару Белпрамбудтрэсту Гімельштэйну, які таксама апынуўся на лаве падсудных. Эйдзін прыдумляў шмат спосабаў для папаўнення сваёй кішэні. Напрыклад, яму даручылі набыць шпалеры. Ён заплаціў за іх 500 рублёў, а потым па гэтым жа рахунку атрымаў грошы яшчэ раз.

Па гэтай справе праходзіла шмат саўдзельнікаў кіраўнікоў-злачынцаў. Усе «працавалі» па адным метадзе – абкрадалі рабочых-будаўнікоў, займаліся фальсіфікацыяй дакументаў. Нават сродкі, прызначаныя на набыццё тэхнічнай літаратуры, хаўруснікі дзялілі між сабой, а потым афармлялі фальшывы акт.

Адзін з цікавых эпізодаў – калі на судзе агучылі «загад», які выдаў Куфман. Справа ў тым, што Стаўровіч неяк несвоечасова «аформіў» фальшывыя дакументы. Дык начальнік нагадаў бухгалтару, што справа тэрміновая.

Абраўшы будаўнічую пляцоўку Вялікага тэатру арэнай для сваіх злачынных спраў, Куфман і К° паставілі будоўлю ў цяжкое матэрыяльнае становішча. Пры гэтым тэрміны будаўніцтва зацягваліся, і яно неймаверна даражэла. Паводле заключэння экспертаў-бухгалтараў, якое яны зрабілі пасля вывучэння ўсіх бухгалтарскіх дакументаў, абвінавачаныя скралі 310 тысяч рублёў. З гэтай сумы 153 тысячы атрымана па фальшывых дакументах.

За сістэматычнае раскраданне дзяржаўных сродкаў, за нанясенне дзяржаве шкоды на будоўлі суд вынес вердыкт: Куфмана, Стаўровіча і Гулякевіча пакараць праз расстрэл. Ермаліцкі, Эйдзін атрымалі па 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і паразай у правах на 5 гадоў пасля зняволення. Астатнім падсудным былі вынесены прысуды на розныя тэрміны пазбаўлення волі.

## понедельник 22 июля

### БТ

06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.30 Новости.
06.10, 07.10, 08.10 «Доброе утро, Беларусь!» на «Славянском базаре в Витебске-2002».
08.45 Письменный экзамен по белорусскому (русскому) языку и литературе в высшие учебные заведения.
09.15, 17.00 «25 градусов на Юг». Сериал.
10.05 Арсенал. Программа об армии.
10.45 Телебарометр. Прогноз погоды.
11.00, 18.50 «Семейные узы». Сериал.
12.20 «Добрый день, Беларусь!» на «Славянском базар в Витебске-2002».
13.00 Сериал «Михайло Ломоносов». Фильм 1-й «От недр своих». 1-я серия.
14.20 Телевизионный Дом кино. Артист театра и кино Виктор Манаев.
15.20 Худ. фильм для детей «**ВОЛШЕБНИК ЛАЛА**» (Венгрия).
16.35 Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Как один мужик двух генералов прокормил».
18.20 Зона Икс.
18.30 «Деловые люди». Видеофильм.
19.45 Колыбельная.
20.00 Панорама. Информационный канал.
21.00 «Славянский базар в Витебске-2002». «Украина молодая». Гала-концерт мастеров искусств Украины. Трансляция из Витебска.
23.00 Стадион.
23.45 Детективный сериал «Крот».

### ОРТ

08.00 Телеканал «Доброе утро».
09.00 Новости.
09.15 «Семейные узы». Сериал.
10.15 Боевик «**НЕУДЕРЖИМЫЙ**».
11.00 Царь горы.
11.20 КОАПП.
16.00 Страна чудес. Шон Коннери в приключенческом фильме «**РЫЦАРСКИЙ МЕЧ**».
17.30 Вечерние новости.
17.45 Документальный сериал «Дикие штучки».
18.10 Премьера многосерийного фильма «Самозванцы».
19.10 «Кто хочет стать миллионером?» Телеигра.
20.00 Время.
20.35 ОНТ представляет: «Наши новости».
21.00 Лесли Нильсен в комедии «**ГОЛЫЙ ПИСТОЛЕТ 33 1/3**».
22.25 Сериал «Скарлетт».
23.15 Ефим Шифрин,Ян Арлазоров в юмористической программе «Шутка за шуткой».
23.40 Сериал «Абсолютные убийцы», «Правда о хищниках».
00.25 Ночное «Время».
00.40 «Крах империи - Убийство Распутина». Авторская программа Эдварда Радзинского. Фильм 1-й.

### РТР

08.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
08.10 Вести недели.
09.05 Ток-шоу Марии Ароновой «Рядом с тобой».
10.20 М.Жаров, Л.Смирнова, Р.Ткачук и Т.Пельтцер в фильме «**ДЕРЕВЕНСКИЙ ДЕТЕКТИВ**» (1968).
12.10 XI Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». Гала-концерт детских художественных коллективов и исполнителей.
16.20 XI Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». «Васильковое созвездие». Гала-концерт мастеров искусств Беларуси.
17.15 Вести - Москва.
17.50 «Комиссар Рекс». Сериал.
18.50 Спокойной ночи, малыши!
19.35, 22.20 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Е.Жариков, Г.Юматов, Т.Семина и Б.Новиков в остросюжетном фильме «**ТРАНЗИТ ДЛЯ ДЬЯВОЛА**» (1999).
20.55 Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе «**ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ЗАТЕРЯННАЯ ШАХТА**» (Великобритания, 1992).
22.00 Вести - Подробности.
22.30 Последний сеанс. Остросюжетный фильм «**НОЧНОЙ ДОЗОР**».

По роману Алистера Маклина. Агенту Майку поручают розыск похищенного шедевра Рембрандта «Ночной дозор». Взявшись за дело, Майк оказывается вовлеченным в хитроумную и разветвленную международную интригу.

Режиссер: Дэвид Джексон.

В ролях: П.Броснан, У.Дивэйн, А.Пол, М.Дж. Шэннон, Т.Джэнсен.

### НТВ

07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
07.10, 07.40 Утро на НТВ.
07.50 «Охота на Золушку». Сериал.
09.20 Погода на завтра.
09.25 «Очная ставка».
09.55 Сериал «Идеальная пара», 5 серия «Отдохните, магистр».
11.20 Марина Анисина. «Женский взгляд» Оксаны Пушкиной.
11.50 Сериал. «Курортный роман», 1 серия.
13.05 Беспризорники. Ток-шоу «Принцип Домино».
14.25 «Криминальная Россия. Домодедовский упырь», 1 серия.
15.30 «Зона отчуждения». Профессия-репортер.
15.45 ФБР против ЦРУ в боевике «**ГЛУШИТЕЛЬ**» (Канада).
17.40 Криминал.
18.35 Сериал «Улицы разбитых фонарей», 23 серия. «Испорченный телефон».
19.45 Мелодрама «**ПОД КРЫШАМИ БОЛЬШОГО ГОРОДА**», 5 серия.
21.35 «Скорая помощь-4». Сериал (США), 10 серия.
22.35 Сериал «Улицы разбитых фонарей». «Тёмное пиво, или Урок английского».
23.40 «О, счастливчик!» Азартная игра.
00.15 Триллер «**ДВОЙНОЙ ВИТОК**» (США).

### КУЛЬТУРА

09.15 Все суры Корана.
09.40, 16.35 Док.сериал «Понимание».
10.35 «Экология литературы». Анна Ахматова. Часть 1-я.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Новости культуры.
11.45 «За семью печатями». Телевикторина для старшеклассников.
12.20 «Тайна Третьей планеты». Мультфильм.
13.10 «Сверхнаука». «Секреты привлекательности».
13.35 «Страсти по-итальянски». Сериал (Италия, 1999). Режиссер: Д.Лепре.
14.30 «Цитаты из жизни». Наталья Басовская.
15.10 «Театр одного художника». «Миф». Борис Кустодиев.
15.40 «Гранд». Сериал (Великобритания). Режиссер: Д.МакКинон.
17.50 «Мой Эрмитаж». Авторская программа М.Пиотровского.
18.15 «Театральная летопись». Андрей Гончаров.
18.40 Исторические концерты.
19.30 «Рекс». Мультсериал.
19.45 «Театральная Россия». А.Н.Островский «На всякого мудреца довольно простоты». Спектакль театра имени Евг.Вахтангова. Режиссер: А.Ремизова.
22.30 Джем-5.
23.25 «Ночной полет». Ведущий Андрей Максимов.
23.53 Программа передач.

### 8 КАНАЛ

17.30 Мультфильм «Том и Джерри».
17.45 Сериал «Моссад».
18.30 Телемагазин.
18.45 Худ. фильм «**ОСАДА**».
20.45 «Вечарніца».
21.00 Программа «Знакомьтесь - Беларусь».
21.15 Мистический триллер «**ПРИСТАНИЩЕ ЕВЫ**».

### СТВ

06.00, 16.45, 20.00 «Минщина. Люди, события, факты».
06.15 «Добро пожаловаться».
06.25 «Здравствуйте, доктор!».
06.35, 20.05 «Виртуальный мир».
06.45, 16.00 Мультсериал: «Приключения Папируса».
07.10, 15.30 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
07.35, 14.30 Мультсериалы: «Вуншпунш», «Инспектор Гаджет».
08.30, 20.15 «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
08.45 Джеки Чан в комедийном боевике «**ПОЛИЦЕЙСКАЯ ИСТОРИЯ-2**».
11.00 «168 часов».
12.00, 20.30 Новости мировой шоу-индустрии.
12.30, 16.30, 19.00, 23.00 «24 часа».
12.45 «Очевидец».
13.15 «Дальнобойщики». Сериал.
16.50 «Яго, темная страсть». Теленовелла.
17.55 «Не от мира сего». Док. фильм.
18.25 Новости СНГ.
18.40 «Планета людей».
19.15 «Добрый вечер, малыш...».
19.30 «СТВ-спорт». Телеальманах.
19.50 «Тема дня».
21.00 Триллер «**МИСТЕР УБИЙСТВО**», 1-я серия.

Череда трагических случайностей привела героев фильма в больницу, где ассистенты перепутали пробирки с анализами крови. Через четыре месяца на основе этих анализов начали проводить эксперимент, выращивать человеческий эмбрион. Если, конечно, то, что собиралось вырасти, можно было назвать человеком...

Режиссер: Дик Лоури.

В ролях: Стивен Болдуин, Джули Уорнер, Билл Смитрович, Джеймс Коберн.

23.15 Футбольный курьер.
23.50 Ночной музыкальный канал.
00.20 Музыка на СТВ.



## вторник 23 июля

### БТ

06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.50 Новости.
06.10, 07.10, 08.10 «Доброе утро, Беларусь!» на «Славянском базаре в Витебске-2002».
08.45 Письменный экзамен по белорусскому (русскому) языку и литературе в высшие учебные заведения.
09.15, 17.05 «25 градусов на Юг». Сериал.
10.05, 15.45 «Грозовые камни». Сериал для детей.
10.35 Стадион.
11.00, 18.50 «Семейные узы». Сериал.
12.20 «Добрый день, Беларусь!» на «Славянском базаре в Витебске-2002».
13.00 Сериал «Михайло Ломоносов». Фильм 1-й «От недр своих». 2-я серия.
14.20 Док.сериал «Голубая бездна».
15.20 «Последняя резервация». Мультсериал.
16.05 Молодёжный сериал «Жемчужины океана».
18.25 Зона Икс.
18.35 «Наше наследие». Косовский дворец.
19.45 Колыбельная.
20.00 Панорама. Информационный канал.
20.50 Спорт-курьер.
21.00 «Славянский базар в Витебске-2002». Международный конкурс молодых исполнителей эстрадной песни «Витебск-2002» (день второй).
00.10 Детективный сериал «Крот».

### ОРТ

08.00 Телеканал «Доброе утро».
09.00 Новости.
09.15 Сериал «Абсолютные убийцы», «Правда о хищниках».
09.55 Боевик «**НЕУДЕРЖИМЫЙ**».
10.40 «Ералаш».
10.50 Что да как.
11.10 Дисней-клуб: «Любимчик».
15.50 «Народ против». Телеигра.
16.35 Сериал «Сейчас или никогда».
17.30 Вечерние новости.
17.45 Док.сериал «Дикие штучки».
18.10 Премьера многосерийного фильма «**САМОЗВАНЦЫ**».
19.10 «Семейные узы». Сериал.
20.00 Время.
20.35 ОНТ представляет: «Наши новости».
21.00 Жан-Поль Бельмондо в боевике «**ЧАСТНЫЙ ДЕТЕКТИВ**».
22.40 Сериал «Скарлетт».
23.30 Комедийный сериал «Китайский городовой».
00.15 Тихон Хренников в программе «Сати».
00.40 Ночное «Время».
00.55 «Крах империи - Убийство Распутина». Авторская программа Эдварда Радзинского. Фильм 2-й.

### РТР

08.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
08.10 Детективный сериал «Жара в Лос-Анджелесе» (США).
09.00 Сериал «Вечный зов».
10.20 Валерий Золотухин, Юрий Назаров и Владимир Гостюхин в детективе «**ПРЕДВАРИТЕЛЬНОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ**» (1978).
12.10 XI Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». Гала-концерт детских художественных коллективов и исполнителей.
16.20 Футбол. Чемпионат России. «Ростсельмаш» (Ростов-на-Дону) - «Торпедо» (Москва). Прямая трансляция из Ростова-на-Дону.
18.00 «Комиссар Рекс». Сериал.
18.50 Спокойной ночи,,малыши!
19.35, 22.20 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Фильм «**ТРАНЗИТ ДЛЯ ДЬЯВОЛА**».
20.55 Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе «**ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ТАЙНА ОХОТНИЧЬЕГО ДОМА**» (Великобритания, 1992).
22.00 Вести - Подробности.
22.30 Последний сеанс. Премьера. Фильм «**ЖИВЫЕ**» (США, 1993).

Эта потрясающая до глубины души, подлинная история произошла осенью 1972 года в пятницу тринадцатого (!) октября. В этот день над Андами потерпел катастрофу авиалайнер, на борту которого находилась школьная сборная по регби из Уругвая. Самолет рухнул на высокогорное плато, которое было полностью отрезано от внешнего мира. Здесь, среди дикой стужи и трупов, горстке оставшихся в живых школьников предстоял жестокий, нечеловеческий тест на выживание. Семьдесят два бесконечных, мучительных дня молодые люди боролись за свою жизнь. Убежищем им служили обломки самолета, пищей - тела погибших товарищей. Иногда приходится превратиться в зверя, чтобы остаться человеком...

Режиссер: Фрэнк Маршалл.

В ролях: Итан Хоук, В.Спано, Д.Хэмилтон, Б.Рэмзи, И.Дуглас.

00.55 XI Международный конкурс молодых исполнителей эстрадной песни «Витебск-2002». День первый.
02.00 Дневник XI Международного фестиваля искусств «Славянский базар».

### НТВ

07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
07.10, 07.40 Утро на НТВ.
07.50 «**ПОЛИЦЕЙСКИЕ. ЧЕРНАЯ ЗВЕЗДА ВУДУ**». Остросюжетный фильм, 20 серия.
09.20 Погода на завтра.
09.25 «Внимание. Розыск!». Звездные мальчики.
10.10 Актриса Елена Проклова в программе Павла Лобкова «Растительная жизнь».
10.45 Вкусные истории.
11.20 Илзе Лиепа. «Женский взгляд» Оксаны Пушкиной.
11.55 Сериал. «Курортный роман», 2 серия.
13.05 Как удачно выйти замуж? Ток-шоу «Принцип Домино».
14.25 «Криминальная Россия. Домодедовский упырь», 2 серия.
15.30 «**ПОД КРЫШАМИ БОЛЬШОГО ГОРОДА**». Мелодрама, 5 серия.
16.35 Джон Ву представляет боевик «**РОЖДЕННЫЙ ВОРОМ**», 1 серия.
17.40 Криминал.
18.35 Сериал «Улицы разбитых фонарей», 24 серия. «Дело репортера».
19.45 Мелодрама «**ПОД КРЫШАМИ БОЛЬШОГО ГОРОДА**», 6 серия.
21.35 Игра на выживание в сериале «**ТРОЕ**» (США), 1 серия.
22.30 Сериал «Улицы разбитых фонарей». «Испорченный телефон».
23.35 «О, счастливчик». Азартная игра.
00.15 Триллер «**ИСПЫТАНИЕ ОГНЕМ**». (США)

### КУЛЬТУРА

09.05 «Желтый аист». Мультфильм.
09.15 «Тесные врата». Александр Невский.
09.40, 16.35 Док.сериал «Понимание».
10.35 «Экология литературы». Анна Ахматова. Часть 2-я.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Новости культуры.
11.45 Кино-детям. «**МЕНЯЮ СОБАКУ НА ПАРОВОЗ**». Худ. фильм (к/ст. имени М.Горького, 1975). Режиссер: Н.Хубов.
13.10 «Сверхнаука». «Вечная молодость».
13.35 «Страсти по-итальянски». Сериал (Италия, 1999). Режиссер: Д.Лепре.
14.30 «Разведка, о которой знали немногие...». Яков Серебрянский.
15.10 «Театр одного художника». «Легкая кисть Фрагонара».
15.40 «Гранд». Сериал (Великобритания). Режиссер: Д.МакКинон.
17.50 «Дворцовые тайны». Дворец Нарышкиных-Шуваловых.
18.15 «Театральная летопись». Андрей Гончаров.
18.45 «Партитуры не горят». Авторская программа А.Варгафтика.
19.25 «Рекс». Мультсериал.
19.35 «**ЖИЗНЬ - ЭТО ДАР**». Худ. фильм из цикла «Будущее человечества» (Франция, 1999). Режиссер: Ж.Берже.
21.10 «Дуновение века». Авторская программа А.Васильева. Фильм 4-й. «Русские эмигранты в Париже».
21.50 «**МАРИО И ВОЛШЕБНИК**». Худ. фильм (Германия, 1994). Режиссер: К.-М.Брандауэр. 1-я часть.
23.25 «Ночной полет». Ведущий Андрей Максимов.
23.53 Программа передач.

### 8 КАНАЛ

17.30 Мультфильм «Незнайка».
17.45 Сериал «Секретные материалы».
18.30 Худ. фильм «**РОКОВАЯ ОШИБКА**».
20.30, 21.20 Телемагазин.
20.40 К-видео. «Топ-8».
20.45 «Вечарніца».
21.00 Гурман-клуб.
21.30 Худ. фильм «**РОЖДЕСТВЕНСКИЙ ПИРОГ**».

### СТВ

06.00, 12.30, 16.30, 19.00, 21.50 «24 часа».
06.15, 16.45, 18.55 «Минщина. Люди, события, факты».
06.20, 19.30 «Виртуальный мир».
06.30, 16.00 Мультсериал: «Приключения Папируса».
07.00, 15.30 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
07.30, 14.30 Мультсериалы: «Вуншпунш», «Инспектор Гаджет».
08.30, 18.15 Новости СНГ.
08.45 Триллер «**МИСТЕР УБИЙСТВО**», 1-я серия.
11.00, 19.55 «Тема дня».
11.10 «СТВ-спорт». Телеальманах.
11.30 Канал истории: «МИ 6». Док.фильм.
12.45 «Очевидец».
13.15 «Дальнобойщики». Сериал.
16.50 «Яго, темная страсть». Теленовелла.
18.00 «Новости науки».
18.30 «СТВ-спорт».
18.40 «Портрет в интерьере».
19.15 «Добрый вечер, малыш...».
19.40 «Здравствуйте, доктор!».
20.05 «Планета людей».
20.20 «Добро пожаловаться».
20.30 «Закон и криминал».
20.45 «Автопанорама».
21.00 Музыка на СТВ «Песни любви».
22.05 Триллер «**МИСТЕР УБИЙСТВО**», 2-я серия.
00.05 Музыка на СТВ.
00.20 «Иллюзион»: Моника Витти, Дирк Богард, Теренс Стэмп в шпионском боевике «**МОДЕСТИ БЛЭЙЗ**».

## среда

### БТ

06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.25 Новости.
06.10, 08.10 «Доброе утро, Беларусь!» на «Славянском базаре в Витебске-2002».
07.10 «Доброе утро. Беларусь!» на «Славянском базаре в Витебске-2002».
08.45 Письменный экзамен по белорусскому (русскому) языку и литературе в высшие учебные заведения.
09.15, 17.05 «25 градусов на Юг». Сериал.
10.05, 15.45 «Грозовые камни». Сериал для детей.
10.35 Здоровье. Тележурнал.
11.00, 18.45 «Семейные узы». Сериал.
12.20 «Добрый день, Беларусь!» на «Славянском базаре в Витебске-2002».
13.00 Сериал «Михайло Ломоносов». Фильм 1-й «От недр своих». («Мосфильм»). 3-я серия.
14.15 Время местное. Репортажи из провинции.
14.45 Док.сериал «Голубая бездна».
15.20 «Последняя резервация». Мультсериал. Заключительная серия.
16.05 Молодёжный сериал «Жемчужины океана». Заключительная серия.
18.25 Зона Икс.
19.45 Колыбельная.
20.00 Панорама. Информационный канал.
20.50 Спорт-курьер.
21.00 «Славянский базар в Витебске-2002». «Виват, Санкт-Петербург». Гала-концерт мастеров искусств России, посвященный 300-летию со дня основания г. Санкт-Петербурга. Трансляция из Витебска.
23.00 Криминальное досье.
23.45 Детективный сериал «Крот».

### ОРТ

08.00 Телеканал «Доброе утро».
09.00 Новости.
09.15, 19.10 «Семейные узы». Сериал.
10.05 Боевик «**НЕУДЕРЖИМЫЙ**».
10.50 «Ералаш».
11.00 Программа «100%».
11.20 Следствие ведет Колобков.
15.50 «Народ против». Телеигра.
16.35 Сериал «Сейчас или никогда».
17.30 Вечерние новости.
17.45 Док.сериал «Дикие штучки».
18.10 Премьера многосерийного фильма «**САМОЗВАНЦЫ**».
20.00 Время.
20.35 ОНТ представляет: «Наши новости».
21.00 Боевик «**НАПЕРЕГОНКИ СО ВРЕМЕНЕМ**».

Верховный суд США принял закон, по которому самоубийство перестало считаться уголовным преступлением. Медицинская корпорация «Корпус жизни» стала использовать этот закон с выгодой для себя. Она предоставляла большие суммы денег совершенно здоровым людям за право использовать их органы для трансплантации после смерти. Джим Габриэл заключил контракт с «Корпусом жизни», оказавшись в безвыходной ситуации. Он лишился работы, а для срочного лечения больного сына нужны деньги. Но Джим опоздал. Мальчик умер до того, как отец получил чек. Деньги оказались не нужны. Джим решает расторгнуть договор, но к своему ужасу узнает, что это невозможно.

Режиссер: Джефф Мерфи.

В ролях: Э.Робертс, К.Анвар, К.Элвис, С.Уинтер, Д.Венора, К.Сэрэндон.

22.35 Сериал «Скарлетт».
23.25 Комедийный сериал «Китайский городовой».
00.10 «Крылья».
00.35 Ночное «Время».
00.50 «Крах империи - Убийство Распутина». Авторская программа Эдварда Радзинского. Фильм 3-й.

### РТР

08.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
08.10 Детективный сериал «Жара в Лос-Анджелесе» (США).
09.00 Сериал «Вечный зов».
10.20 К.Лавров, В.Глаголева и А.Пашутин в фильме «**ПРЕФЕРАНС ПО ПЯТНИЦАМ**» (1984).
12.05 XI Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». Гала-концерт детских художественных коллективов и исполнителей.
16.20 XI Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске». «Украина молодая». Гала-концерт звезд украинской эстрады.
17.15 Вести - Москва.
17.50 «Рекс. Юные годы». Сериал.
18.50 Спокойной ночи, малыши!
19.35, 22.20 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Фильм «**ТРАНЗИТ ДЛЯ ДЬЯВОЛА**».
20.55 Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе «**ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ПРИКЛЮЧЕНИЯ ИТАЛЬЯНСКОГО АРИСТОКРАТА**» (Великобритания, 1992).
22.00 «Вести - Подробности.
22.30 Последний сеанс. А.Панкратов-Черный, И.Муравьева и М.Светин в комедии «**ЗЕФИР В ШОКОЛАДЕ**» (1993).
00.15 XI Международный конкурс молодых исполнителей эстрадной песни «Витебск-2002». День второй.

# Матор Расіі працуе з перабоямі

**З нядаўніх звестак расійскага Дзяржкамстату аб прамысловай вытворчасці відаць прыкметы спаду. У першым паўгоддзі вытворчасць прамысловай прадукцыі вырасла толькі на 3,2%. Летась прырост склаў каля 5,5%, а яшчэ раней – каля 20%.**

Эксперты маскоўскага аддзялення *United Financial Group* (*UFG*) і ў наступным годзе чакаюць росту на 3,5%. Валавы нацыянальны прадукт таксама павялічыцца сёлета, паводле прыблізнага падліку ўраду, толькі на 3,6% (2001 год: 4,9%).

Атрымаўшы гэтыя аб'ектыўныя звесткі, прэзідэнт Уладзімір Пуцін забіў трывогу. На крызісным пасяджанні ён запатрабаваў ад кіраўніка ўраду Міхаіла Касьянава, каб той гарантаваў «эканамічную бяспеку» краіны. Сярэднетэрміновы рост ВУП павінен складаць, як сказаў Пуцін, ад 40 да 50%. Урадавыя планы павінны быць больш амбітныя, падкрэсліў прэзідэнт. Кіраўнік кабінету міністраў Касьянаў адрэагаваў адразу ж – і загадаў паправіць прагноз у бок павелічэння.

Нават калі Расія будзе шпарка праводзіць рэформы дзеля ўступу ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, расійская эканоміка ўсё роўна застанецца малатрывалай. Эканоміка краіны з 145-мільённым насельніцтвам жыве перадусім за кошт экспарту нафты і газу і дзякуючы непатрабавальнасці сваіх грамадзян, якія часта абыходзяцца зарплатай нашмат меншай за 100 еўра.

Урад нічога не можа проціпаставіць нізкаму аб'ёму інвестыцыяў. Летась іншаземцы ўклалі ў расійскую эканоміку 14 млрд. даляраў, што хоць і на 30% болей, чым у 2000 годзе, але значна менш, чым тыя ж замежныя інвестыцыі ў кітайскую эканоміку.

Нядаўна Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця прадставіў свае даследаванне эвалюцыйных сцэнарыяў для Расіі. Калі Масква да 2010 году хоча дасягнуць штогадовага росту ВУП у 5,2%, – а гэта неабходна ёй, каб скараціць адставанне, – то аб'ём інвестыцыяў павінен штогод павялічвацца сама менш на 17%. Урад абвясціў сваёю мэтай – дагнаць цягам 15 гадоў найслабейшую краіну ЕС, Партугалію.

Пуцін шмат што змяніў у эканоміцы ў дадатны бок, і тым не менш некаторыя рэформы засталіся незавершаныя. Так, напрыклад, зямельная рэформа здзейснена, але іншаземцы не могуць набываць сельскагаспадарчыя прыдобы. Не робіцца рашучых захадаў па барацьбе з карупцыяй і нязмерным уплывам бюракратыі. Яшчэ адна пагрошкода – гэта марудная банкаўская рэформа. Дзяржава жорстка кіруе працэсам. Сістэмы крэдытавання фактычна не існуе. Многія прадпрымальнікі вывозяць прыбытак за мяжу. Чакаецца, што сёлета з-за ўцёкаў капіталу краіна знoўку страціць больш за 20 млрд. даляраў.

**Die Welt**

# Новы папамабіль





**Новы папамабіль выраблены кампаніяй *Mercedes* для публічных выездаў Папы Рымскага Яна Паўла II. Новая машына створана на базе пазадарожніка. Але ў астатнім яна мала чым адрозніваецца ад сваіх папярэдніц. Адразу за месцам кіроўцы пачынаецца высокая празрыстая кабіна, у якой і знаходзіцца кіраўнік Рымска-Каталіцкай Царквы. Яна зроблена з куленепрабівальнага шкла.**
**Такім чынам, вернікі могуць бачыць Яна Паўла II, тым часам як ён сам застаецца ў бяспецы. Каб звяртацца да паствы, у кабіне ўсталяваны гучнагаварыцель. Ззаду папамабіль абсталяваны спецыяльнай нахіленай плоскасцю, па якой першасвятар можа самастойна трапіць у кабіну на інвалідным крэсле.**

# *Цывілізацыя для абарыгенаў*

Шмат гадоў абарыгены цэнтральнай Аўстраліі, якія жывуць у пустэльні ўдалечыні ад цывілізацыі, назіраюць за тым, як іхняя моладзь спрабуе ўратавацца ад рэальнасці, удыхаючы пары бензіну.

Урад альбо бяздзейнічае, альбо натыкаецца на праблемы міжкультурных узаемаадносінаў. «Дзеці ўсё больш дыхаюць бензінам. Узніклі цэлыя супольнасці «нюхачоў», – распавядае антраполаг Мэгі Брэндзі.

У 1994 годзе юэндуму, племя з 800 чалавек, сутыкнулася з крызісам. Бензінам дыхалі семдзесят дзяцей – палова ўсіх падлеткаў. Дзеці занялі некалькі закінутых дамоў, ператварыўшы іх у цэнтры падлеткавага «культурнага» жыцця. Шматгадовыя намаганні, каб выкараніць кепскую звычку, у тым ліку публічныя лупцоўкі, ні да чога не прыводзілі.

Станцыя Маунт Тэо месціцца за 170 км ад паселішча юэндуму. Тут праводзіцца курс лячэння для падлеткаў, якія нюхаюць бензін. Станцыя зрабілася цэнтрам правядзення адпаведнай праграмы.

У аснову гэтай праграмы, якая фінансуецца ўрадам і прыватнымі асобамі, закладзена вельмі простая ідэя. Тут падлеткаў навучаюць традыцыйным прафесіям – паляванню на кенгуру, збіранню ядомых вусеняў і дзікай картоплі. Прайшоўшы курс, дзеці паступова рэінтэгруюцца ў жыццё сваёй супольнасці.

# *Чалавек, які хацеў забіць Шырака*

У нядзелю раніцай, у ходзе традыцыйнага ваеннага параду на Елісейскіх палях, прысвечанага Дню ўзяцця Бастыліі, у самы апошні момант удалося пазбегнуць драмы. І нават нягледзячы на тое, што гаворка ідзе пра дзеянні неўраўнаважанага чалавека, «міфамана, які прытрымліваецца гранічна правых поглядаў», можна казаць пра тое, што зроблена спроба замаху на жыццё прэзідэнта Жака Шырака.



**Знішчальнікі ў небе не ўратуюць ад тэрарыста – гэта лішнім разам давяло свята Дня ўзяцця Бастыліі. Пакуль магутныя машыны ішлі над горадам, радыкал паспрабаваў застрэліць прэзідэнта Францыі.**

Чалавек, які знаходзіўся ў натоўпе за металічнай агароджаю, непадалёк ад Трыумфальнай аркі, дастаў зброю (карабін 22 *long rifle*), з футарала ад гітары, калі кіраўнік дзяржавы праязджаў на адкрытым ваенным аўтамабілі. Злачынца стрэліў з адлегласці 150 м у напрамку прэзідэнцкага картэжа, але ў нікога не трапіў. Відавочца падзеі падрабязна апісвае дзеянні стралка, які быў каротка пастрыжаны і адзеты ў блакітную кашулю і бэжавыя штаны. «Я глядзеў парад. Адчуў справа нейкі рух натоўпу. Убачыў за два-тры метры ад сябе чалавека, які збіраўся стрэліць у напрамку прэзідэнта», – паведаміў турыст, канадзец, які адказвае на пытанні брыгады крымінальнага вышуку парыжскай судовай паліцыі.

Толькі дзякуючы хуткай рэакцыі гэтага сведкі і іншых гледачоў забойца скарыстаў зброю ўсяго адзін раз. «Чалавек, які стаяў побач са злачынцам, ударыў яго па руцэ, а я ўчапіўся ў зброю. Трэці схапіў вінтоўку за ствол», – расказаў сведка-канадзец. Пакуль некалькі чалавек спрабавалі раззброіць таго, хто страляў, у натоўпе раздаваліся крыкі: «Паліцыя, паліцыя!» І яна ўрэшце з'явілася. Бяспеку ў раёне Елісейскіх палёў забяспечвалі 4 000 паліцэйскіх, з іх 400 у цывільным. Зламысніка звязалі, надзелі на яго наручнікі і завезлі ў пастарунак.

Асобу злачынцы ўдалося хутка высветліць. Ім аказаўся досыць вядомы Марцін Брунэры, 25 гадоў, студэнт, шафёр, які жыве са сваімі бацькамі. Ён сапраўды блізкі да праваэкстрэмісцкіх колаў. «Нам вядома пра яго прыналежнасць да неанацысцкіх і хуліганскіх рухаў», – пацвердзілі ў прэфектуры Парыжа. Ён браў удзел у розных мерапрыемствах, арганізаваных нацыяналістычнай партыяй.

Судзімасцяў ён не мае. А суседка кажа пра яго як пра «спакойнага і ўраўнаважанага маладога чалавека». Аднак ён меў праблемы з псіхікай. «Ён не раз праходзіў лячэнне ў спецыялізаваных установах», – кажа адзін з удзельнікаў расследавання, вызначаючы, такім чынам, сувязь паміж неўраўнаважанасцю Брунэры і замахам на прэзідэнта. Брунэры меўся забіць Жака Шырака з карабіну, які можа набыць хто заўгодна. Прафесіянал скарыстаў бы вінтоўку з аптычным прыцэлам і размясціўся б на паверсе якога будынка. Тое, што ён зрабіў, – гэта ўчынак непрафесіянала. І нават калі за ягонымі дзеяннямі нехта стаіць, то замоўцы, таксама, хутчэй за ўсё, аматары», – аналізуе сітуацыю следчы.

Але Максім Брунэры прызнаўся ўва ўчыненым. Ён заявіў, што сапраўды хацеў забіць Жака Шырака, а потым скончыць жыццё самагубствам. У другой палове таго ж дня група спецыялістаў з упраўлення па барацьбе з тэрарызмам правяла вобшук на кватэры ягоных бацькоў, але не знайшла нічога істотнага. Увечары міністр унутраных справаў удакладніў, што Максім Брунэры набыў карабін за тыдзень да падзеі і што ў магазіне карабіна было толькі пяць патронаў.

**Figaro**

# Каралеўства Марока ў ролі акупанта

Еўрапейскі Саюз заклікаў Марока спыніць чатырохдзённую акупацыю бязлюднага астраўка ў Міжземным моры, які мае вялікую стратэгічную важнасць. ЕС заявіў, што крызіс можа сур'ёзна сапсаваць стасункі Марока з паўночнымі суседзямі.

Чатыры іспанскія караблі выправіліся патруляваць зону вакол найважнейшых паўночнаафрыканскіх уладанняў краіны – гарадоў-анклаваў Сеуты і Мелілы, акупаванага вострава Перахіль і іншых спрэчных астравоў каля паўночнага берага Марока.

Улады Іспаніі заявілі, што калі Марока не выведзе свае войскі, Іспанія разарве дамову пра дружбу і супрацоўніцтва, увядзе – разам з Еўрапейскім Саюзам – рэжым эканамічных санкцыяў, узмоцніць абмежаванні, накладзеныя на імігрантаў з Марока. У Іспаніі жывуць і працуюць 250 000 легальных імігрантаў з гэтай краіны. Спроба прагнаць мараканцаў сілай можа стаць толькі крайняй мерай.

У выходныя Еўрапейскі Саюз абнародаваў заяву, у якой падтрымаў пазіцыю Іспаніі і заклікаў Марока «неадкладна вывесці свае сілы» з вострава, які мараканцы называюць вострaвам Лейла.

Міністр замежных справаў Марока Махамед Бенайса заявіў, што ягоная краіна ўсяго толькі стварыла назіральны пункт, каб больш эфектыўна змагацца з тэрарызмам, кантрабандай наркотыкаў і незаконнай міграцыяй, і што Іспанія і ЕС рэагуюць на гэта неадэкватна.

«Калі 10 салдат высадзіліся на камень за 160 метраў ад берагу сваёй краіны – гэта не было ўварваннем дзяржавы Марока ў Іспанію», – сказаў ён у інтэрв'ю агенцтву «Франс Прэс». Паводле ягоных словаў, Іспанія ніколі не казала, што гэта яе востраў.

«Мы ўпэўнены, што з сітуацыі можна выйсці шляхам дыялогу, – сказаў ён. – Мы можам спакойна знайсці формулу супрацоўніцтва з Іспаніяй, супольнага вырашэння некалькіх праблем, у тым ліку праблемы вострава Лейла».

Днямі міністр бяспекі Іспаніі Педра Марэнас заявіў, што Марока перагледзе сваю пазіцыю. «Я думаю, што мы хутка вырашым гэтае пытанне. Марока пераацэньвае свае дзеянні і ў найбліжэйшым часе выправіць памылку», – сказаў ён.

Адносіны паміж Марока і Іспаніяй, найбуйнейшым гандлёвым партнёрам і фінансавым спонсарам афрыканскай дзяржавы, застаюцца напружанымі з восені мінулага году, калі Марока нечакана адклікала свайго пасла з Мадрыду.

Аднабаковая акцыя – высадка салдатаў, што паднялі сцяг сваёй краіны на Перахілем, дзе жывуць толькі козы, адбылася напярэдадні вяселля караля Махамеда IV, на якім прысутнічалі чальцы іспанскай каралеўскай сям'і.

Назва вострава перакладаецца як «пятрушка».

**New York Times**

# Даляр стаў таннейшы за еўра

*Сімволіка мае вялікае значэнне на валютных рынках. Найзначнейшы з сімвалаў тут – гэта курс еўра адносна даляра.*

У лютым 2000 году, калі еўра апусціўся ніжэй за адзнаку ў адзін даляр, па прэстыжы еўрапейскай валюты быў нанесены цяжкі ўдар. Шмат хто ўспрыняў гэта як знак перавагі амерыканскай эканомікі.

У панядзелак еўра перасек сімвалічны рубеж у адваротным напрамку і цяпер каштуе больш за даляр. Гэтым разам цяжкія часы перажывае эканоміка ЗША. Шмат хто з эканамістаў пабойваецца, што цяпер падзенне даляра можа паскорыцца.

Для ЗША ўсё гэта азначае, што рынкі страцілі веру ў магію амерыканскай эканомікі, якая ў апошнія гады была рухавіком развіцця эканомікі ўсяго свету.

«Гэта апошні цвік у труну "новай эканомікі", – сказаў Дэвід Блум, стратэг па валютах. – ЗША шмат гадоў тлумачылі свету, як трэба кіраваць эканомікай. І вось, нарэшце, рынкі расплюшчылі вочы на праблемы ў самой Амерыцы».

Еўрапейскія палітыкі адчулі, што еўра, з якога гэтулькі смяяліся, узмужнеў. Шмат хто з экспертаў даўно называў галоўнай прычынай нізкіх вынікаў, якіх еўра дамогся за першыя два гады свайго жыцця (еўрапейская валюта была абясцэнілася адносна даляра на 20%), надта моцную веру ў эканоміку ЗША. Да нядаўняга часу міжнародныя інвестары не верылі, што даляр можа хутка ўпасці. Цяпер яны насцярожыліся. Шмат хто з эканамістаў мяркуе, што цэнтральныя банкі могуць пачаць дыверсіфікаваць свае рэзервы, часткова адмаўляючыся ад даляра. Гэта паскорыць падзенне «бакса».



Паводле ацэнак, Цэнтральны банк Кітаю трымае ў еўра ўсяго 5% сваіх рэзерваў, хоць у гэтай валюце ажыццяўляецца 20% гандлёвага абароту.

«У рэзервах шмат якіх цэнтральных банкаў захоўваецца менеі еўра, чым мела б сэнс. Доля еўра ў рэзервах не адлюстроўвае таго вялікага значэння, якое маюць гандлёвыя і фінансавыя сувязі з еўразонай, – сказаў Авінаш Персо, кіраўнік даследчага аддзелу бостанскага інвестыцыйнага банку *State Street*. – Ёсць адчуванне, што шмат хто хоча пачакаць, пакуль еўра пасталее».

Даляр вельмі чуйны нават да самых дробных зменаў у настроях. У 2002 г. бягучы рахунак ЗША перавысіць 450 млрд. даляраў. Каб спыніць падзенне валюты, ЗША трэба кожны працоўны дзень прыцягваць 1,7 млрд. даляраў з замежных фондаў. Інвестарам і цэнтральным банкам няма патрэбы прадаваць валюту, каб яна ўпала, – ім дастаткова проста замарудзіць тэмпы куплі амерыканскіх актываў.

Вера ў сумленнасць амерыканскіх карпарацыяў пахіснулася, міжнародныя фондавыя менеджэры не хочуць павялічваць сваю долю ў кампаніях краіны. Нават калі рахункам прыбыткаў і стратаў можна даць веры, акцыі амерыканскіх кампаніяў усё ж нятанныя.

Складанасці даляра павялічвае рост бюджэтнага дэфіцыту. З канца 2000 г. прафіцыт бюджэту ЗША ў 300 млрд. даляраў хутка ператвараецца ў дэфіцыт, аб'ёмы якога набліжаюцца да 200 млрд. Міжнародныя фондавыя менеджэры гатовы фінансаваць прыватныя кампаніі, але не вельмі схільныя субсідыяваць урадавыя выдаткі.

Для Еўропы падзенне даляра – гэта магчымасць пераненсці на пазнейшы тэрмін павышэнне працэнтных ставак. Некаторыя эканамісты кажуць, што падзенне даляра перашкодзіць імпарту ў ЗША, што, у сваю чаргу, можа прымусіць Японію і Еўропу паскорыць тэмпы правядзення структурных рэформаў.

**Financial Times**

## СВЯТАЯ РУСЬ

### *Праваслаўныя «адцягваюцца»*

У вялізны сметнік з аўтастаянкай ператвараецца ў летнія дні запаведны луг і старыца каля славутага храму Пакрова на Нерлі паблізу Уладзіміра. У выходныя дні на лузе, дзе растуць рэдкія віды траваў, збіраецца больш за дзвесце аўтамабіляў: «Волгі», «Лендроверы», «Мерседэсы», УАЗы.



П'яныя адпачывальнікі спрабуюць прайсці ў храм у купальніках і трусах, брыдка лаюцца і буянячы, спраўляюць патрэбы проста на пляжы. Двое вартаўнікоў храму з цяжкасцю стрымліваюць хуліганаў і ў будзённыя, але асабліва ў выходныя дні. Мясцовая адміністрацыя не робіць ніякіх захадаў. Становішча пагаршаецца тым, што прадстаўнікі крымінальных структур аблюбавалі гэтую мясціну для так званага «адцягвання». Міліцыя нават не спрабуе спыніць такую сваволю.

Некалі, у першыя гады перабудовы, луг каля храму належаў мясцоваму калгасу, і па ім да царквы Пакрова падыходзілі толькі пешкі, што спрыяла ачышчэнню духу і думак паломнікаў.

## УКРАІНА

### Фантан на магіле ахвяраў НКУС

Некалькі дзён назад слесары аварыйнай брыгады рамантавалі трубу фантана ў скверы на Цэнтральным бульвары ў заходнеўкраінскім горадзе Цярнопалі. На двухметровай глыбіні яны знайшлі мноства чалавечых касцей. Мясцовыя краязнаўцы лічаць, што карнікі НКУС расстрэльвалі вязняў у 1939–1941 гадах у чаканні нападу Германіі на СССР, калі гітлераўскія войскі занялі Польшчу. Яны баяліся, што гітлераўцы вызваляць асуджаных з турмаў. Пасля вайны на месцы пахавання расстраляных быў зроблены фантан. Цярнопальскі райвыканкам перадаў 15 ліпеня парэшткі, знойдзеныя ў цэнтры гораду, у Цярнопальскае бюро судова-медычных экспертызаў.

**ІА «ПРЫМА»**

## ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

### *Лідэр у «злачыннай лізе»*

Англія і Уэльс лідзіруюць у «злачыннай лізе» краін Захаду, піша сёння брытанская *Independent*. Згодна з даследаваннем ААН, на тэрыторыі гэтых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Вялікабрытаніі ўчыняецца болей злачынстваў, чым у 17 іншых індустрыяльна развітых краінах.

На 100 жыхароў Англіі і Уэльса прыпадае амаль 55 злачынстваў, пры гэтым у іншых краінах здзяйсняецца ў сярэднім 35 праванарушэнняў на 100 чалавек. Англія і Уэльс лідзіруюць таксама ў катэгорыі «цяжкіх злачынстваў». Тут іх здзяйсняецца 18 на 100 жыхароў. Другое месца ў спісе займае Аўстралія з паказчыкам 16. Урад Вялікабрытаніі апублікаваў днямі звесткі пра стан справаў са злачыннасцю ў краіне. Упершыню за 10 гадоў тут адзначаны рост ліку крадзяжоў і рабункаў.

## ГЕРМАНІЯ



**Дрэздэн. Рака Эльба больш не пэцкаецца – а яшчэ ж нядаўна яна лічылася самай бруднай у Еўропе. Цяпер на ёй упершыню правялі міжнародны дзень купання ў чыстай вадзе – па ўсім цячэнні людзі без боязі заходзілі ў ваду нават у светлай бялізне.**

# *Кіднэпінг*

**Штогод у свеце дзеля атрымання выкупу выкрадаецца прыкладна 10 тыс. чалавек. У лік дзесяці самых небяспечных у гэтым дачыненні краін свету ўваходзяць Расія, Калумбія, Мексіка, Бразілія, Філіпіны, Венесуэла, Эквадор, Нігерыя, Індыя і ПАР.**

Толькі крыху лепшая сітуацыя з кіднэпінгам у ЗША, Казахстане, Саудаўскай Аравіі, Германіі, Польшчы, Сірыі, Аргенціне, Перу, Інданезіі, Лівіі. Выпадкі выкрадання людзей найбольш рэдка здараюцца ў Швецыі, Францыі, Ірландыі, Партугаліі, Чэхіі, Венгрыі і Ізраілі. Паводле звестак часопіса *Foreign Policy*, колькасць выпадкаў кіднэпінгу ў свеце павялічваецца апошнія восем гадоў. Пасля распаду СССР і спынення падтрымкі ім міжнародных рэвалюцыйных арганізацыяў тыя былі вымушаны шукаць іншыя крыніцы фінансавання. Адною з іх стаў кіднэпінг.

Выкрадальнікі людзей штогод зарабляюць да 800 млн. даляраў. Узровень платы, якую патрабуюць яны за вызваленне выкрадзеных, можа вагацца ад 50 да 1 млн. даляраў. Прайсліст вар'іруецца ў залежнасці ад сацыяльнага статусу выкрадзенага і раёна, у якім дзейнічаюць злачынцы. У вясковых раёнах сумы выкупу ніжэйшыя, чым у гарадскіх. Найтанней абыходзіцца выкуп чалавека ў Мексіцы, найдаражэй – у Калумбіі. Цікава, што ў Калумбіі «рынак» выкраданняў на 80% кантралюецца не злачыннымі групоўкамі, а тэрарыстычнай арганізацыяй марксісцкага кшталту *Fuerzas Armada Revolutionarias de Colombia* («Рэвалюцыйныя ўзброеныя сілы Калумбіі», альбо *FARC*). Паводле ацэнак экспертаў, *FARC* зарабляе на гэтым штогод ад 150 да 500 млн. даляраў, што складае прыкладна 40% гадавога бюджэту арганізацыі. Шмат якія тэрарыстычныя групоўкі па ўсім свеце таксама актыўна практыкуюць выкрадванні. Напрыклад, рух «Хамас» выкарыстоўвае гэты сродак не проста дзеля разавага выкупу, а каб прымусіць блізкіх выкрадзенага і яго самога да сталага супрацоўніцтва.

Цікава, што ў некаторых краінах практычна не выкрадаюць іншаземцаў. Узоры гасціннасці ў гэтым дачыненні – тыя ж Калумбія і Мексіка. У Калумбіі на 94 выкрадзеных калумбійцаў прыпадае ўсяго шэсць іншаземцаў; у Мексіцы – адпаведна 96 і 4. Найбольш няўтульна замежнікам у Нігерыі і ПАР: на 71 выпадак кіднэпінгу нігерыйца прыпадае 80 выпадкаў кіднэпінгу грамадзян іншых дзяржаваў, у ПАР гэтая прапорцыя складае 57:43. У Расіі на 96 сваіх жыхароў прыпадае 30 выпадкаў выкрадання замежнікаў. У шмат якіх краінах свету замежнікам лічаць нечым накшталт законнай здабычы мясцовых жыхароў. Па-першае, лічыцца, што прыезджыя заўсёды маюць шмат грошай, а падругое, што такім чынам мясцовыя жыхары «помсцяць» замежнікам, якія іх «абкрадаюць». Злачынцы далёка не заўсёды выкрадаюць буйных бізнесменаў і менеджэраў буйных кампаніяў. Як правіла, ахвярамі кіднэпінгу робяцца простыя працаўнікі, пра забеспячэнне бяспекі якіх практычна ніхто не дбае.

**WPF**

# «Бывай, мастацтва»

## *Інтэрв'ю знакамітага італьянскага тэнара газеце* La Repubblica

**«Летась я адзначаў 40 гадоў з пачатку музычнай кар'еры. Але 50-годдзе я адзначаць ужо не буду, гэта дакладна», – кажа Лучана Паварoці. Нядаўна спявак выехаў з Мадэны і замкнуўся ў сваім доме ў Пезара. Тут цудоўны зялёны парк на беразе Адрыятычнага мора. Голас вядомага тэнара – прыглушаны, хрыплы, часта перабіваецца прыступамі кашлю. Ён яшчэ не зусім пазбавіўся ад грыпу, на які захварэў у Нью-Йорку і які вымусіў яго адмовіцца ад выступу, што выклікала самыя гучныя за ўсю яго кар'еру абгаворы.**



**– Вы сапраўды вырашылі не чакаць свайго залатога вяселля са сцэнай?**

– Пяцьдзесят гадоў на сцэне для таго, хто, як я, пачаў у 26 гадоў – гэта немагчымая мэта. Дзеля гэтага я павінен быў дэбютаваць у 18.

**– Кар'ера можа працягвацца, нават калі не ствараць новых грандыёзных шэдэўраў.**

– Так, але не дзесяць гадоў. Я ніколі не ставіў перад сабой пытання «калі». Але паколькі вы мяне пытаеце, дык магу адказаць, што проста не вытрываю яшчэ дзесяць гадоў.

**– Пра вас часта гаварылі, у прыватнасці пра ваша асабістае жыццё. Пра ваш развод, сувязь з дзяўчынай, нашмат маладзейшай за вас, пра фінансавыя праблемы...**

– А вас ніколі не абгаворвалі?

**– Не, ніколі.**

– Ведаеце, гэта таксама не надта добра. Іншым разам, каб лепей нешта зразумець, карысна стаць прадметам абгавораў. Я не хацеў бы апынуцца сярод тых, хто кажа «вось у мой час...», бо мой час – гэта сёння, і я спадзяюся, што ён будзе і заўтра, і пазней. Я бачыў самую шчаслівую эпоху чалавецтва. Я бачыў канец вайны. Я жыў той эйфарыяй, той нечаканай свабодай, жаданнем нешта рабіць, ствараць. Свабодай спяваць, свабодай запальваць увечары святло, бо не было болей камендацкай гадзіны.

**– Вы хочаце сказаць, што лішак свабоды ап'яняе і разбэшчвае нас?**

– На думку Шапенгаўэра – а я вывучаў філасафаў і лічу, што яны маюць рацыю, – «свабода – гэта канец свабоды». І цяпер мы перажываем перыяд, калі розныя свабоды сутыкаюцца адна з адной, бо людзі перасталі паважаць адзін аднаго.

**– Вам не хапае вашага бацькі?**

– Мне вельмі яго не хапае. Ён быў нават не бацькам для мяне, а хутчэй сынам.

**– Калі-небудзь ён быў нязгодны з вашымі рашэннямі?**

– Не, бо мой бацька заўжды чакаў выніку. Нават калі я пакінуў оперу і пачаў выконваць поп-музыку. Я хачу верыць, што карыстаўся яго ўхваленнем з самага пачатку.

**– Хто першы паверыў у вас?**

– Мама. Тата таксама быў тэнарам, і паміж намі было ўсяго дваццаць гадоў розніцы. Вы чулі *Ave Maria* ў царкве ў дзень яго пахавання? Ён запісаў яе не гэтак даўно. Але, ведаеце, ён так і не здолеў зацвердзіцца на галоўным шляху. Ён верыў у мяне, але пры гэтым казаў мне: едзь у Рым вучыцца, на спевы яшчэ ёсць час. Але ў мамы было прадчуванне. «Няхай ён едзе ў Рым», адказала яна, «але давай выправім яго да Пола, ён выдатны тэнар, і горш нашаму сыну ад гэтага не будзе». Так і сталася. Але вы не ўяўляеце, праз колькі выпрабаванняў мусіў прайсці мой бацька. Ён быў харыст і меў мноства сяброў-ворагаў. Нехта нават казаў яму: Фернанда, гэта праўда, што ты плаціш за тое, што твой сын спявае? Ён не дараваў гэтым людзям. У Мадэне ёсць два спевакі – Мірэла Фрэні і я. Але, ведаеце, напачатку нас вельмі крытыкавалі. Казалі: чаго яны жадаюць дасягнуць сваімі галаскамі?

**– У 1961-м, у вашыя 26 гадоў, здарылася ўсё адразу: дэбют, вяселле з Адуяй Верані...**

– І вадзіцельскія правы.

**– А самы незабыўны ўспамін таго часу?**

– Дэбют. Вядома, і вяселле было значнае, і вадзіцельскія правы. Але гэта магло адбыцца і наступным годам.

**– У жыцці вы калі-небудзь перажывалі нешчаслівае каханне, як у песнях, якія вы спяваеце?**

– Яшчэ як! Да Адуі. Першыя шэсць-сем гадоў былі цяжкімі. Яна і ведаць пра мяне не хацела, і я вельмі ад гэтага пакутаваў.

**– Ці цяжка сумяшчаць кар'еру і асабістае жыццё?**

– Не. Шмат гадоў мая жонка, дочкі, пакуль яны не пайшлі ў школу, і я складалі цудоўную кампанію. Мы ўсё перажывалі разам. Нядаўна адна з дачок зрабіла мяне дзедам. Каб даць мне зразумець, што жыццё канчаецца і адраджаецца наноў. Дзяўчынку назвалі Кацярынай, як святую Кацярыну, апякунку Італіі.

**– Ці ёсць месца ў свеце, дзе вы адчуваеце сябе найлепш?**

– Тут, у Пезара, я чуюся добра. Яшчэ і таму, што за апошнія трыццаць год тут выраслі дрэвы, якія ізалююць нас ад знешняга свету. Дзякуючы гэтаму мы прынамсі не бачым фатографаў, якія караскаюцца па галінах. Бо менавіта тут, каля басейна, была зроблена жахлівая фатаграфія, дзе дакладна выдзяляюцца ўсе складкі майго жывата. Каб забраць яе з продажу, я заплаціў 38 мільёнаў старых лір. Гэта было 25 гадоў назад.

**– Ці часта вы дзякуеце Богу за тое, што вы – Лучана Паварoці з Мадэны – пасол італьянскага мастацтва ў свеце?**

– Заўсёды. Але не за поспех. Калі мне было 12 гадоў, я два тыдні праляжаў у коме. Менавіта тады я стаў дзякаваць Богу за тое, што я ёсць. Усё астатняе другасна.

**– Якім вам хочацца, каб вас памяталі?**

– Як чалавека шчырага, вельмі прафесійнага. Я хацеў бы, каб мяне ўспаміналі такім, якім я быў аднойчы прадстаўлены на *Pavarotti & Friends*: чалавекам, які дзеля дабра для іншых не спыніцца ні перад чым.

**La Repubblica**

НАВУКА

# «Трэба гаварыць...»

## *Мінскі міжнародны сімпозіум, які пашырыў узаемаразуменне*

«Не захапляйцеся глабалізацыяй. Пры сённяшнім вашым становішчы гэта пагібель» – так адказаў на пытанне анкеты «Што дапаможа беларусам захаваць сваю адметнасць у эпоху глабалізацыі» вядомы літоўскі пісьменнік Вітаўтас Пяткявічус.

Ужо самі адказы на гэтую анкету, распаўсюджаную сярод удзельнікаў Міжнароднага сімпозіуму «Разнастайнасць моў і культур у эпоху глабалізацыі», што прайшоў у Мінску ў Доме літаратара, могуць даць шмат падстаў для роздуму аб тым, як паўздзейнічае – і ўжо дзейнічае – на беларусаў працэс глабалізацыі. Літва стаіць бліжэй да Захаду, і песімістычныя высновы літоўскага пісьменніка небеспадстаўныя.

Аднак ягоныя думкі наконт глабалізацыі падзялялі не ўсе, і гэта спараджала гарачыя спрэчкі ў перапынках паміж паседжаннямі. І ў час працы сімпозіуму ў залі кіпелі жарсці.

«Ваш старшыня Камісіі па адукацыі, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Катляроў прыводзіць факты, што 80% насельніцтва хочуць дзве мовы. Тады ўрад павінен рабіць усё, каб існавала беларуская мова», – заявіў прафесар славістыкі з Саарбрукену Роланд Марці. Ён жа прапанаваў тэрмін «станоўчая дыскрымінацыя» ў адносінах да пануючай мовы дзеля таго, каб даць выжыць слабейшай; гаворачы аб перспектывах двухмоўя, ён адзначыў, што «ў гэтым саюзе руская мова стане мацнейшай і зусім не выгаднай для беларускай».

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў абвергнуў факты, прыведзеныя І.Катляровым, і прывёў звесткі апошняга перапісу, якія яскрава пацвярджаюць, што беларусы ўсё болей адчуваюць сябе суверэннай нацыяй і разумеюць неабходнасць захавання сваёй роднай мовы. Яго падтрымаў і Рыгор Піўтарак, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі Украіны: «Цяперашняе цяжкое становішча беларускай мовы – часовае. У бліжэйшай будучыні пасля краху ідэі беларуска-рускай дзяржавы Прэзідэнт і дзяржаўныя чыноўнікі стануць большымі беларускімі патрыётамі, чым цяпер... Праз сто гадоў усе беларусы будуць гаварыць па-беларуску».

Аптымістычны погляд на здольнасць беларусаў вырашыць гэтую няпростую праблему выказаў дэпутат эстонскага парламенту.

Цікавай і вострай была размова і на «круглым стале» па праблемах тэрарызму, у якой узялі ўдзел Святлана Алексіевіч, Тэры Карлбом (Швецыя), Енсен Х'ел Улаф (Нарвегія), Алесь Баршчэўскі (Польшча), Валянцін Аскоцкі (Масква) і іншыя – усяго да нас у Мінск прыехалі пісьменнікі і навукоўцы з дзевятнаццаці краін.

«У доме павешанага не гавораць пра вяроўку» — так мне сказаў адзін з пісьменнікаў, калі я запытаўся, чаму беларускія творцы неахвотна кажуць пра пераслед улады ў дачыненні да творчага саюзу, – заявіў Валянцін Аскоцкі. – Але і вяроўку ў гэтым сэнсе можна разглядаць як зброю тэрарыстаў...»

Увогуле, многія з тых, хто ўдзельнічаў у сімпозіуме, тлумачылі свой прыезд жаданнем падтрымаць беларускіх пісьменнікаў – носьбітаў і абаронцаў нацыянальнай мовы. На захаванне і яе сярод іншых моваў, якім пагражае небяспека быць незваротна страчанымі, скіраваныя высілкі *UNESCO*, чыя «Дэкларацыя аб культурнай разнастайнасці» таксама была распаўсюджана падчас сімпозіуму і шырока на ім абмяркоўвалася.

Нездарма многія выступы былі прысвечаныя захаванню нацыянальных моў у краінах Еўропы і праблемам літаратуры, якая апелюе да лепшага ў чалавеку – яго душы і сэрца. На пытанне «Што Вас прывяло да Беларусі?» прафесар Югаслаў Райкавіч адказаў: «Жаданне прычыніцца да мерапрыемства, якое падрыхтаваў Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Высокі ўзровень сімпозіуму, безумоўна, быў у першую чаргу акрэслены імёнамі ўдзельнікаў і тымі арганізацыямі, якія, апроч пісьменніцкага саюзу (каардынатарам праекту быў пісьменнік Васіль Якавенка), узялі ўдзел у яго арганізацыі: найперш гэта нацыянальная Камісія па справах *UNESCO* (У.Шчасны), а таксама ПЭН-Цэнтр на чале з Адамам Мальдзісам, Таварыства беларускай мовы, Міністэрства культуры і шэраг іншых арганізацый Беларусі.

Пасля заканчэння сімпозіуму дырэктарка нацыянальна-асветніцкага Цэнтру імя Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канаплянік выказала старшыні Саюзу пісьменнікаў Вользе Іпатавай шчырае захапленне высокім узроўнем праведзенага мерапрыемства, сказаўшы, што яна памылілася ў першапачатковай яго ацэнцы. Нездарма сімпозіум віталі тры лаўрэаты Нобелеўскай прэміі – Гюнтэр Грас, Віслава Шымборска і Кэндзабура Оэ, а таксама народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў і многія дзеячы культуры і літаратуры Еўропы.

«Значнасць сімпозіуму, можа, будзе ацэнена не адразу – занадта вялікія і няпростыя пытанні ён узнімаў, – сказаў намеснік міністра культуры Узбекістану Эркін Эрназараў, – але паступова, аналізуючы даклады, якія будуць выдадзеныя, мы прыйдзем да высновы, што беларусам можна пазайздросціць: яны змаглі вылучыць новыя ідэі і абмеркаваць тое, што толькі вымалёўваецца на гарызонце былых савецкіх рэспублік».

Высока ацанілі ўдзельнікі таксама і той факт, што перад імі з прамовай, дзе давалася шырокая карціна стану культуры і яе праблем, выступіў Генеральны дырэктар *UNESCO* Каіцíра Мацуўры.

На сімпозіуме выказаліся ўсе, хто падаваў заяўкі на выступленні і хто хацеў давесці свае погляды да калег з іншых краін. Нездарма на пытанне «Што, на Ваш погляд, неабходна зрабіць дзеля ўзаемаразумення паміж людзьмі і народамі?» літаратурны крытык, дарадчык Міністэрства культуры Эстоніі Мал Каеватц адказала проста і коратка: «Трэба гаварыць».

**Юры ТРУБЕЦ**

# «Вертыкаль» чакае, калі згіне пінскі «Мур»



## Лёс архітэктурнага помніка стаў заложнікам разгубленай улады

Шэраг грамадскіх арганізацый Пінску накіраваў калектыўны зварот старшыні тамтэйшага гарвыканкаму В.Шусту з прапановамі аб вывадзе з запусцення знакамітага архітэктурнага помніку на беларускім Палессі – палаца Бутрымовіча. «Вертыкаль» увесь гэты час дэманструе разгубленасць у пошуку сродкаў і спосабаў выкарыстання гістарычнага будынку.

### Аднаўленне

25 верасня 1995 году група геадэзістаў пінскага праектнага інстытуту «Палессемеліявадгас» на чале з галоўным эколагам гэтай установы Аляксеем Дуброўскім заклала пяць земляных шурфаў ля падмурку палаца Бутрымовіча. У двух з іх лязо бура выйшла на стары асушальны дрэнаж. Гэтая ўдача пацвердзіла навуковую гіпотэзу А.Дуброўскага, выведзеную ім падчас настойлівых пошукаў у архівах Беларусі і Польшчы.

У 1784 годзе, калі ў Пінску пачыналі ўзводзіць першы каменны палац некультавага прызначэння, неспадзяваныя абставіны вымусілі шукаць нетыповае рашэнне. На левым беразе ракі Піны, дзе ўжо высіўся велічны касцёл пінскіх францішканцаў, за 400 метраў ад яго ўверх па цячэнні землякопы наткнуліся на пяскі-плывуны і глыбокія крыніцы. Гаспадар будоўлі, гарадскі суддзя Матэвуш Бутрымовіч, хоць і быў засмучаны, але адступаць не дазволіў. У тым годзе чакаўся прыезд у Пінск караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Ужо існавала дамоўленасць, што лодачны караван высокай асобы прычаліць да гэтага месца і кароль самаручна пакладзе ў падмурак пліту з памятным надпісам. Шыкоўны праект пінскага палаца, выкананы віленскім архітэктарам Каралем Шыльдхаўзам, на той час быў ужо шырока разрэкламаваны ў Варшаве, куды Матэвуш Бутрымовіч наведваўся ў якасці пасла на 4-гадовым Сойме. Страціць свой гонар перад каралём з-за нейкай вады на пляцоўцы пінскі маршалак не мог. Да таго ж ён карыстаўся рэпутацыяй фундатара-першапраходца ў асушэнні балотаў і будаўніцтве праз іх конных перапраў. Бутрымовіч аддаў загад заганяць у грунт з крыніцамі дубовыя палі, а з сухога боку пакласці альховыя калоды. Затым па перыметры іх абвязалі шырокай цаглянай кладкаю.

### Палац на палях

Пра пінскі палац на 40 дубовых палях ёсць згадкі ў «Дыярыюшы», надрукаваным у Варшаве праз два гады пасля каралеўскай паездкі. Але літаратар (ёсць здагадкі, што гэта быў Адам Нарушэвіч) не мог тады ведаць пра канструкцыю адводу вільгаці ад будынку на крыніцах. Асушальны дрэнаж з'явіўся ўжо пасля завяршэння будаўніцтва, і нідзе ў архівах звестак пра гэтае Бутрымовічава інжынернае рашэнне не захавалася. Аляксей Дуброўскі сам вылічыў яго параметры шляхам параўнання з іншымі. Як і 200 гадоў таму, цяпер на ўзроўні глыбіні падмурка зноў выкапалі траншэі, умацавалі іх па вертыкалі альховымі дошкамі, запоўнілі пясчана-каменным фільтрам. Самацечны дрэнаж скіравалі ў бок Піны, і вільгаць, ад якой не прасыхалі сцены, удалося адвесці. Такім чынам у 1996 годзе былі створаны ўмовы для працягу выратавальнай рэканструкцыі архітэктурнага помніка. Але прэзідэнцкі рэферэндум пахаваў стваральныя намеры пінскага дэпутацкага «дэмблоку». У горадзе ўсталявалася жорсткая адміністрацыйная «вертыкаль». Гэта першая за 200 гадоў улада, якая не можа знайсці выкарыстанне для будынку са скарбонкі еўрапейскай архітэктуры.

### Пінскі франт

Палац Бутрымовіча ўяўляе сабою аднапавярховы будынак з высокім цокальным паўпаверхам. Планіровачная канфігурацыя ў форме літары «П» фармуе парадны двор, раздзелены пладовым садам, што спускаўся наўпрост да рэчышча Піны. Калі разліваліся палескія рэкі і вада засціла гарызонт, над затопленым наваколлем ганарліва ўзвышаўся «Мур». Наведваючы Пінск у 40-х гадах XIX стагоддзя, вядомы пісьменнік Юзаф Крашэўскі падкрэсліваў, што палац «надта прыгожы» і «выглядае як франт у вёсцы, які саромеецца сваёй вытанчанай архітэктуры сярод іншых дамкоў, што стаяць без цырымоній, як скрынкі на паліцах».

Пасля смерці Матэвуша Бутрымовіча ў 1814 годзе палац адышоў у спадчыну да ягонай дачкі Юзэфы, якая была замужам за Міхаілам Ордам. Пазней, як уласнасць іхнай дачкі Гартэнзіі, жонкі Аляксандра Скірмунта, «Мур» перайшоў у валоданне мужавай сям'і, служыў зімовай рэзідэнцыяй і месцам знаходжання фамільнага архіву і каштоўнасцей. У перыяды акупацыі Пінску немцамі, палякамі, рускімі, зноў немцамі і вяртання саветаў палац Бутрымовіча хоць і страчваў бляск сваёй прыгажосці, але разам з касцёлам заставаўся архітэктурнай дамінантай усяго гораду да пачатку 1990-х гадоў. «Задушыў» будынак, прынізіў яго за сваім 12-павярховым фасадам новы гатэль «Прыпяць». Недасведчаным яго праектантам не прыходзіла да галавы, што тут можа існаваць дрэнажная сістэма XVIII стагоддзя, а абыякавыя будаўнікі разбурылі яе калектар. Палац пачаў гібець ад сырасці. Апошняй тут кватаравала да свайго палітычнага фіяска гарадская піянерская арганізацыя…

### Рэстаўрацыя

Капітальная рэканструкцыя палаца Бутрымовіча, як лічаць падпісанты ад дэмакратычных партый і рухаў у сваім звароце да Пінскага гарвыканкаму, павінна праследаваць задачы аднаўлення яго архітэктурнай вартасці і захавання як эстэтычнага цэнтру. Дзейнасць дыпламата і гаспадарніка Матэвуша Бутрымовіча, творы мастака і кампазітара Напалеона Орды, спадчына Аляксандра Скірмунта і многіх іншых слынных нашчадкаў з іхных парадненых сем'яў – гэты пласт у гісторыі краю патрабуе годнага вывучэння і шанавання. Сваю прыхільнасць да прапановаў па аднаўленні палаца Бутрымовіча ў якасці збіральніка музейнай экспазіцыі выказалі ўжо замежныя фонды ў Польшчы і суполкі каталіцкіх касцёлаў у Пінску.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 19 ліпеня

**1814.** Нарадзіўся Самюэль Кольт, які стварыў знакаміты рэвальвер 45-га калібру. На яго надмагіллі напісана: «Бог стварыў людзей, Кольт зрабіў іх роўнымі».

**1822.** Французскі вучоны Жазэф Ньепс зрабіў першае ў свеце фота.

**1886.** Апошні канцэрт (у Люксембургу) Ферэнца Ліста. Неўзабаве ён захварэў, прастуда пяройдзе ў пнеўманію і на 75-ым годзе жыцця Ліст памёр.



**1907.** 25-гадовы школьны настаўнік Віктар Грэйсан становіцца першым сацыялістам, абраным у англійскі парламент. Пасля гэтага настаўнік прамовіў: «Сацыялізм болей не страшны».

### 20 ліпеня

**1402.** Сярэднеазіяцкі эмір Цімур пасля разгрому Залатой Арды і захопу Індыі разбіў армію турэцкага султана Баязіда I ў бітве каля Анкары. Наступнай мэтай быў Кітай, але заваяваць яго Цімуру перашкодзіла смерць.

**1933.** Савецкая газета «Правда» абвінавація аўстрыйскую газету «Рэйхпост» у тым, што «заява пра галодную смерць мільёнаў савецкіх грамадзян на Волзе, Украіне і Паўночным Каўказе ёсць вульгарны і брудны паклёп, які сфабрыкавалі ў рэдакцыі «Рэйхпосту», каб пераключыць увагу сваіх рабочых з іх уласнага цяжкога і безнадзейнага становішча на праблемы голаду ў СССР».

### 21 ліпеня

**365.** Падчас землятрусу ў Александрыі (Егіпет) загінулі 50 тысяч чалавек. Таксама разбураны славуты 180-метровы Александрыйскі маяк, які лічыўся чацвёртым цудам свету.

**1937.** Савецкі ўрад звінаваціў украінскае дзяржаўнае радыё ў нацыяналізме.

**1992.** Пайшоў з жыцця Уэйн Макларан, выканаўца ролі каўбоя ў рэкламных роліках цыгарэт «Мальбара». Макларан памёр ад раку лёгкіх у веку 52 гадоў.

**1997.** Карэспандэнт *ОРТ* Павел Шарамет і аператар Зміцер Завадскі арыштаваныя беларускімі памежнікамі за парушэнне беларуска-літоўскай мяжы.

### 22 ліпеня

**1502.** У Лісабон вярнулася экспедыцыя, у якой у якасці астранома браў удзел Амерыга Веспучы. Пасля гэтага плавання цягам гісторыі Новы Свет атрымаў ягонае імя.

**1822.** Нарадзіўся Грэгар Мендэль, аўстрыйскі манахаўгусцінец і вучоны, які адкрыў законы спадчыннасці.

### 23 ліпеня

**1875.** Памёр Ісаак Зінгер, які стварыў знакамітую швейную машынку.

**1982.** Уведзена забарона на ловы кітоў. У выніку распачаўся прырост папуляцыі кітоў, праўда, вельмі малы – па некалькі адсоткаў на год. Мараторый на кітовае паляванне не выконваюць толькі дзве марскія дзяржавы – Нарвегія ды Японія.

### 24 ліпеня

**1802.** Нарадзіўся французскі пісьменнік Аляксандр Дзюма-бацька, аўтар такіх папулярных раманаў, як «Тры мушкецёры» і «Каралева Марго».

**1837.** Першая публічная дэманстрацыя парашуту новай формы з перакуленым дагары дном купала, які, па задуме яго вынаходніка англічаніна Роберта Кокінга, павінен быў прадухіліць гойданне. Падняты на вышыню 2 тысячы метраў аэрастатам, парашут з Кокінгам спачатку спускаўся нармальна, але раптам купал скамечыўся – і парашут пачаў падаць. У выніку Кокінг загінуў. Цікава, што аэрастатам кіраваў Чарльз Грын, які з цягам часу стаў першым пілотам, які зрабіў 100 палётаў.

**1927.** Пайшоў з жыцця адзін з самых вядомых японскіх пісьменнікаў Рунoсэ Акутагава. Ён скончыў жыццё самагубствам у перыяд дэпрэсіі.

**1927.** Арыштаваная па падазрэнні ў шпіянажы на карысць кайзераўскай Германіі танцорка Мата Хары паўстала перад судом французскага ваеннага трыбуналу. На наступны дзень ёй быў вынесены смяротны вырак.

### 25 ліпеня

**1587.** У Японіі забараняецца хрысціянства, а езуітам загадана цягам 20 дзён пакінуць краіну.

**1967.** У газеце *Times* апублікаваны зварот брытанскіх рок-музыкаў да ўраду з патрабаваннем легалізаваць марыхуану. Подпісы пад зваротам паставілі, у прыватнасці, і ўдзельнікі гурта «Бітлз».

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 19–25 ліпеня

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне будуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час народзінаў чалавека.*



**АВЕН.** У пятніцу спрыяльны дзень для рашэння хатніх задач, падарожжаў да сваякоў, гутарак па працы. У сераду і чацвер вас вабіць «бліскучастае», моцныя і яркія праявы, а гэта не заўсёды паказчык якасці. У асабістым жыцці каб не выйшла так, што нахабства для вас у гэты час гарады бярэ, а потым іх жа і разносіць.



**ЦЯЛЕЦ.** У суботу можна патрэніравацца ў майстэрстве ствараць пра сябе ўражанне як пра цікавага і дасведчанага чалавека. Верагодна, у сярэдзіне тыдня давядзецца выканаць ролю «хуткай дапамогі» для каханага чалавека. Толькі глядзіце – вірус палкай жарсці вельмі заразны. Не рэкамендуецца кідацца грашыма на забавы.



**БЛІЗНЯТЫ.** У пятніцу вельмі ўдалым можа аказацца раздробны гандаль і карпатлівая праца самага рознага профілю. У сярэдзіне тыдня з няпростых праблем нашчадкаў ці працягу роду абавязкова знойдзецца выйсце, калі вы не будзеце панікаваць і кідацца ў крайнасці. Бліжэй пад чацвер пазбягайце выпадковых праектаў, неабавязковых дачыненняў і ўблытвання ў чужы лёс.



**РАК.** Вы наперадзе планеты ўсёй, а ў выходныя дні публіка ловіць кожнае вашае слова. Вы вольныя ставіць свае ўмовы, маеце перавагу пры ўладкаванні на працу. У сярэдзіне тыдня не дазваляйце сабе просталінейнасці ў меркаваннях, сцерагчыся ад паспешных рашэнняў. Інакш пацерпіце і ў прафесійным дачыненні, і ў фінансавым.



**ЛЕЎ.** У выходныя дні можна вярнуцца да абмеркавання спрэчных пытанняў. Гэта спалучаецца з граматным вядзеннем фінансавых аперацыяў і калекцыянаваннем. Абставіны спрыяюць куплям, абмену, якія ідуць на карысць сям'і, творчым задумам. Чаго не скажаш пра сярэдзіну тыдня, калі трэба баяцца страты сродкаў.



**ПАННА.** У выходныя дні здабывайце максімум карыснай інфармацыі, прыслухоўвайцеся да парадаў і аналізуйце іх, але не спяшайцеся з рашэннямі. Да аўторка трывае спрыяльны перыяд для адпускных справаў, паездак, прававых пытанняў. У сераду і чацвер не выключаны скандал у сям'і.



**ШАЛІ.** Вы здатныя ўзяць някепскі старт у кар'еры, зрабіць важны крок да дасягнення мэтаў у пятніцу і выходныя. Можна атрымаць каштоўную ліцэнзію або дазвольны дакумент. У сераду і чацвер пазбягайце падазронасці, тым болей калі што раўнуеце. Фінансавыя праверкі таксама могуць аказацца малапрыемнай працэдурай. У выпадку штрафу лічыце, што добра выкруціліся.



**СКАРПІЁН.** У пятніцу неабходна пашыраць сферы ўплыву і рухацца хутчэй, вышэй, мацней. У сераду і чацвер бойцеся вялікіх ці шматлікіх малых капіталаўкладанняў, бо яны могуць не апраўдаць сябе. Не трэба ў гэты час жарцікаў з начальствам – акажацеся пешкаю.



**СТРАЛЕЦ.** У пятніцу варта «даваць адзін аднаму жыць», шанаваць думку навакольных, не ціснуць аўтарытэтам. Інакш вам могуць прыгадаць крыўды нават блізкія сябры. У сярэдзіне тыдня моцная схільнасць да ідэалізаванага кахання, аднак з-за гэтага не выключаны расчараванні.



**КАЗЯРОГ.** Можна разлічваць на сужонка ці партнёра. У сераду і чацвер вы здабываеце гіпнатычную сілу ўплыву. Перамагае тэндэнцыя да раптоўнага, палкага, але часцей тайнага кахання, да парушэння ўсталяваных інтымных сувязяў. Таму не дзіва – праявы рэўнасці. Шлях сублімацыі падобнага ўнутранага жару – творчасць.



**ВАДАЛІЎ.** Назіраецца рост зычлівасці ў рабочым калектыве. У сярэдзіне тыдня беражліва пастаўцеся да патрэбаў блізкіх людзей, іначай станеце сведкам драмаў. Сёй-той з сяброў здатны стаць «трэцім лішнім» у гэтым працэсе.



**РЫБЫ.** Усё паказвае на свята, прыемную падзею, падарунак, магчыма – каханне значнага чалавека ў пятніцу і выходныя. Стан справаў у дзяцей лепшае, а дальняя дарога змяняе да лепшага жыццё і ўяўленні. У сярэдзіне тыдня вы можаце апынуцца ў цэнтры выбуху грамадскай думкі, здатнага справакаваць сыход з пасады. Трывогу выклікае фінансавы бок справы.







У Лондане актывісты арганізацыі *PETA* (*People for the Ethical Treatment of Animals* – Людзі за этычнае абыходжанне з жывёламі) арыгінальна вядуць агітацыю. Бікіні, упрыгожанае лісцем салату, сімвалізавала запрашэнне да вегетарыянскай кухні, а на плакаце жаночае цела было размалявана пад свіную тушу: так выглядаў іхні пратэст каля мяснога рэстарану.

НАВУКА

# Ёсць звяно паміж малпай і чалавекам

Міжнародная група даследчыкаў знайшла ў пустыні Чада чэрап, узрост якога складае каля 7 мільёнаў гадоў. Знаходка паслужыць тым самым звяном, якога не хапае ў эвалюцыйным ланцужку, што прывёў да ўзнікнення чалавека. Паводле навуковай традыцыі знойдзеным парэшткам далі імя – Тумаі.

Чэрап уяўляе сабой новую камбінацыю сучасных і старажытных рысаў. Рэдактар часопісу *Nature*, паведаміў, што знаходка дазваляе праясніць заблытаны працэс узнікнення чалавека. У свеце вядома няшмат палеанталагічных знаходак узростам 5–10 мільёнаў гадоў. Продкаў чалавека тады было мала, і такую знаходку, як Тумаі, можна лічыць за цуд.



ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

# Мартышкі цярпелі моўчкі

***Два з паловай месяцы ў Доме прыроды, што ў Траецкім прадмесці, праходзіла выстава экзатычных жывёлаў, арганізаваная прыватным прадпрымальнікам Я.Александровічам. Дзень пры дні школьныя выкладчыкі прыводзілі сюды дзяцей цэлымі класамі. І дзіўная рэч: ніхто з педагогаў, што наведалі выставу, не заўважыў там ніякіх непаразуменняў. А ліст нам прыслала пятнаццацігадовая Каця Вайцяховіч, сябра экалагічнага гуртка, чалавек неабыякавы, які любіць прыроду ўсім сэрцам.***

Каця расказала нам, што многія жывёлы, якія экспануюцца на выставе, доўгі час жылі ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры для дзяцей і юнацтва. Іх гаспадар з'яўляўся там толькі калі-нікалі, кепска карміў жывёл, рэдка за імі прыбіраў. У тэлефоннай гутарцы Каця ўсё дапытвалася, чым жа кормяць дзікабраза, бо, акрамя сена і сухога батона, дзеці ў ягонай скрынцы нічога іншага не бачылі. Шкадавалі яны і хамелеона, і саранчу, што загінулі.

Прасторная заля Дома прыроды сустрэла нас маўкліва. Ніводная з птушак не сакатала і не спявала. У цесных клетках неабходных птушкам жэрдачак не было, або яны былі прыладжаны гэтак, што птушкі ні сесці на іх не маглі, ні ўзмахнуць крыламі. Асуджаным на інваліднасць не да спеваў. У многіх у клетках не было корму, не сталі паілкі. І зяленіва, такога цяпер даступнага і жыццёва неабходнага, крыніцы вітамінаў і мінералаў – ні лісточка!

На выставе дзяжурыць мама Я.Александровіча, яна ж касірка і раздатчыца кармоў. Пытаемся, колькі разоў на дзень атрымліваюць жывёлы ежу. Аказваецца, адзін раз, увечары. Дзівімся: як жа так, бо ў птушкі страўнік уладкаваны гэтак, што наяўнасць зерня для яго – неабходнасць. А грызунам трэба стачваць зубы – яны растуць у іх няспынна. Адказ збянтэжыў: «Таму што яны гадзяць!»

Некалі ў Я.Александровіча жылі чатыры птушкі – шчуркі залацістыя, занесеныя, дарэчы, у Чырвоную кнігу Беларусі. У жыцці засталася адна. Дакументаў ні на шчурку, ні на чарапаху балотную, забароненую для ўтрымання прыватнымі асобамі, таксама з Чырвонай кнігі, натуральна, няма. Як няма іх і на дзвюх зялёных мартышак, якія сядзяць у глыбокай дэпрэсіі.

Калі вы, дарагі чытач, захочаце заўтра адкрыць аптэчны кіёск, ад вас запатрабуюць знайсці для працы адукаванага правізара, і гэта слушна. Але калі вы, абмінуўшы ўсе мытні і межы, навезяце ў рэспубліку ўсялякага звяр'я, то ў вас, даючы вам дабро на выставу, нават пашпарта ветэрынарнага на тых жа мартышак могуць не спытацца. Забудуць? Палічаць нязначным? У ветэрынарную клініку па месцы жыхарства Александровіч прад'явіў для агляду ўсяго пятнаццаць жывёлін, а ў Дом прыроды завёз больш за сорак. Дзе ўзяў? Купіў. І каму якая справа да таго, што мартышка сядзіць без руху ў клетцы для папугая? А мінімальная плошча для яе павінна быць не меншая за 6–8 квадратных метраў.



Фота У.Шлапака

Мінскі Дом прыроды

У штаце Дома прыроды ёсць свой метадыст. Ці наведаў ён гэтую сумную мясціну хоць раз?

У заканадаўстве Беларусі тэма жывёлаў амаль адсутнічае, а ўжо пра экзатычныя экземпляры і ўвогуле няма ніводнага слова. Чым, з камерцыйным поспехам, і карыстаюцца нашы «аматары». Між тым нават такая краіна, як Індыя, дзе экзотыкі самай рознай хоць адбаўляй, забараніла дзейнасць любых перасоўных і прыдарожных заапаркаў. А з Паўднёвай Карэяй справа дайшла да дыпламатычнага інцыдэнту, калі зоаабаронцы ў адным карэйскім рэстаране ў Дэлі знайшлі стравы з мяса сабак. Міністр Дэпартаменту па праблемах жывёлаў М.Гандзі накіравала тады паўднёвакарэйскаму паслу ноту пратэсту.

Дык, можа, прыйшла пара ўсё назваць сваімі імёнамі? І тады экзотыка Дому прыроды будзе звацца проста «ціхі кашмар». А дарослыя цёці, якія прыводзяць групы дзяцей на прагляд, не будуць расчульвацца, гледзячы на вавёрак з абадранымі хвастамі, а раскажуць дзецям, як нельга трымаць жывёлаў. І яшчэ яны дададуць, што нармальнае асяроддзе для жыцця ўсіх жывых істотаў – прырода, а жыццё ў клетцы – толькі адзін з варыянтаў турмы.

**Маргарыта ПУШКЕВІЧ,**
**сябра зоаабарончага аб'яднання**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3. Заказ № 1167
Нумар падпісаны ў друк 18/07/2002 (12:00) Наклад – 6.780